ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Год выдання 39-ы
№ 49 (2510)
ПЯТНІЦА
4
верасня 1970 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ.

Цана 8 кап.

## ПЕРШЫ РАЗ...



Мабыць, у жыцці кожнага з нас нямнога такіх хвалюючых дзён. І нават калі ты чалавек ужо сталага веку, усё роўна ад слоў «1-е верасня» на сэрцы становіцца хораша і светла.

1-е верасня ў нашай вялікай краіне перамогшага сацыялізма, краіне ўсеагульнай пісьменнасці, краіне высокай культуры і навукі — сапраўднае свята. У гэты дзень гасцінна адчыняюцца дзверы тысяч і тысяч школ, тэхнікумаў, інстытутаў. У гэты дзень мільёны нашых маладых суайчыннікаў адпраўляюцца ў новую дарогу, вялікую і радасную дарогу ў свет ведаў, дарогу, ідучы па якой чалавек становіцца дужым і смелым, становіцца сапраўдным гаспадаром жыцця.

Аб'ектыў нашага фотакарэспандэнта Ул. Крука занатаваў некалькі імгненняў першага дня навучальнага года.

Верхні здымак зроблены ў 1-м «Б» класе 30-й Мінскай сярэдняй школы. Для гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак толькі што прагучала першае ў іх жыцці слова настаўніка.

На ніжнім здымку справа — студэнтка першага курса Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Тамара Яфімава бярэ першы ўрок у настаўніка Яўгена Гладкова.

І яшчэ здымак. Гэта студэнты 1-га курса Мінскага мастацкага вучылішча — будучыя выкладчыкі малявання ў школе.





# РАЗАМ

Сілу ўздзеяння станоўчага героя на людзей у свой час глыбока разумеў такі тонкі і дакладны мастак, як Антон Чэхаў. У артыкуле, прысвечаным памяці вядомага рускага падарожніка М. Пржавальскага, Чэхаў пісаў аб тым, што «станоўчыя тыпы, якія ствараюцца літаратурай, складаюць каштоўны выхаваўчы матэрыял».

Чэхаў пісаў гэта ў той час, калі жыццё рэдка адорвала мастака сустрэчамі з людзьмі, якія заслугоўваюць характарыстыкі — станоўчы герой. Якое ж вялікае і глыбокае рэальнае значэнне набывае гэта паняцце ў савецкім мастацтве і перш за ўсё — у тэатры, які валодае выключнай сілай эмацыянальнага ўздзеяння на людзей! Ад настаўніцы Любові Яравой да старшыні гарсавета ў маленькім старажытным рускім гарадку Марыі Шчалканавай з ляонаўскай «Залатой карэты», ад партызана Вяршыніна і прафесіянальнага рэвалюцыянера Пекляванава з «Браняпоезда 14-69» Усевалада Іванава да чэкіста Ермакова з драмы Георгія Мдзівані «Твой дзядзя Міша» з рук у рукі перадаецца эстафета ідэйнай перакананасці і патрыятызму, гераізму і мужнасці.

Асаблівасцю нашага часу з'яўляецца таксама і тое, што станоўчыя «тыпы, якія даюцца самім жыццём», уваходзяць у літаратуру і мастацтва і ў сваю чаргу аказваюць магутны, высакародны, патрыятычны ўплыў на жыццё і на людзей, актыўна садзейнічаюць фарміраванню чалавечых характараў новай маральнай фармацыі. Даволі назваць у якасці прыкладу вобразы, якія з жыцця ступілі на сцэнічныя падмосткі,— герояў камсамольскага падполля «Маладая гвардыя», сусветна вядомых лётчыкаў Аляксея Марэсьева і Мікалая Гастэлы, героя аўтабіяграфічнай аповесці пісьменніка В. Цітова «Усім смерцям назло...», які паўтарыў подзвіг Мікалая Астроўскага.

Гаворачы аб партыйнасці савецкага тэатра, неабходна падкрэсліць і яшчэ адзін яго бок — сацыяльны аптымізм, які носіць актыўны, дзейсны характар. Як і ўсё наша мастацтва, тэатр не абыходзіць тыя недахопы, цяжкасці, памылкі, якія ўсё яшчэ ёсць у жыцці. Але, паказваючы гэтыя недахопы, памылкі, цяжкасці, драматургі і майстры сцэны добра разумеюць, што да гэтага не зводзіцца ўся праўда аб нашай рэчаіснасці і ўсе гэтыя мінусы — толькі кропля ў моры ў параўнанні з тымі дасягненнямі, якія характарызуюць сённяшні дзень краіны і народа. Драматургі і майстры тэатра не адступаюць перад цяжкасцямі і памылкамі, не ўпадаюць у панічную тугу і разгубленасць, а цвёрда вераць у магчымасць пераадолець і ліквідаваць іх. І ў гэтым сама сутнасць класавага, партыйнага падыходу савецкага тэатра да адлюстравання з'яў рэчаіснасці, бо, як гаварыў У. І. Ленін, «...калі б нават на 100 нашых правільных актаў даводзілася 10 000 памылак, усё-такі наша рэвалюцыя была б, і яна будзе перад сусветнай гісторыяй, вялікая і непераможная, бо першы раз не меншасць, не адны толькі багатыя, не адны толькі адукаваныя, а сапраўдная маса, велізарная большасць працоўных самі будуюць новае жыццё, сваім вопытам вырашаюць цяжкія пытанні сацыялістычнай арганізацыі».

Ці не зводзіцца, аднак, партыйнасць савецкага тэатра толькі да партыйнасці яго драматургіі? Ці не выпадзе на долю рэжысёраў і акцёраў, якія даюць сцэнічнае жыццё п'есе, функцыя чыста выканаўчая, якая не патрабуе ад іх ні ідэйнай сталасці, ні чоткай, недвухсэнсоўнай пазіцыі? Зусім не! Канечне, рэпертуар — ідэйна-творчая аснова тэатра. Ідэйная і мастацкая сіла і глыбіня будучага спектакля ў многім залежаць ад п'есы, вызначаюцца ёю. У многім, але не ва ўсім. Ад рэжысёра (дарэчы, і самы выбар іменна гэтай, а не другой п'есы для пастаноўкі сведчыць аб яго ідэйна-творчых прыхільнасцях, аб яго партыйнасці) залежыць — узмацніць, падкрэсліць тыя бакі і матывы твора, якія здаюцца яму найбольш значнымі, важнымі і актуальнымі. Такія пастаноўкі, як «Маладая гвардыя», ажыццёўленая Мікалаем Ахлопкавым на сцэне маскоўскага тэатра імя У. Маякоўскага, «Аптымістычная трагедыя», ажыццёўленая Георгіем Таўстаногавым у ленінградскім тэатры імя А. С. Пушкіна, «Бітва ў дарозе» і «Сумленне», якія ішлі на сцэне Тэатра імя Массавета ў рэжысуры Юрыя Завадскага і Аляксандра Шапса, уяўляюць у гэтым сэнсе класічныя прыклады.

І ад акцёра, які непасрэдна сустракаецца з гледачамі і даносіць да іх думкі і пачуцці аўтара, таксама ў вельмі вялікай ступені залежаць дакладнасць, глыбіня і сіла гучання вобраза. Нездарма ж у свядомасці гледачоў найбольш любімыя імі вобразы тэатра, вобразы, якія сталі сапраўды народнымі, нязменна звязваюцца перш за ўсё з імёнамі акцёраў, якія далі ім сцэнічнае жыццё. Вобраз настаўніцы Любові Яравой з Верай Пашэннай, вобраз школьніцы Машанькі з аднайменнай п'есы А. Афінагенава з Верай Марэцкай, вобраз выдатнага вучонага Маціяса Клаўзена з драмы «Перад захадам сонца» з Мікалаем Сіманавым, дзякуючы якому п'еса Г. Гаўптмана, напісаная даўно, набыла ў нашы дні свежасць і актуальнасць, антыфашысцкае гучанне.

Сіла савецкага тэатра ў тым, што ён звязаны з палітыкай, якую праводзяць Камуністычная партыя і Савецкі ўрад, служыць гэтай палітыцы, ганарыцца гэтым сваім служэннем. У гэтым і ёсць вялікае шчасце мастакоў савецкага тэатра, іх сапраўдная творчая свабода. Свабода ў служэнні сваім мастацтвам народу, справе сацыялізма, міру, прагрэсу. Яны таксама не супярэчаць адзін аднаму, гэтыя разуменні, — творчая свабода і камуністычная партыйнасць. І яны адзіныя і непадзельныя. Камуністычная партыйнасць — вышэйшая форма творчай свабоды мастака.

(АДН).

---

той цяжка захварэў, з усяго свету вазіў да яго дактароў. Аднак не памаглі і заморскія лекі. Тады князь спытаў у гусляра: «Скажы мне, чаго ты хочаш, — выканаю любое жаданне». «Адвязі мяне за Лань, у тую хатку ў бары, дзе я нарадзіўся і вырас», — папрасіў Карпей... Усе думалі, што гусляр памрэ. Нават хадзілі, каб пахаваць яго. Падышлі людзі аднойчы да той хаткі ў бары і сумеліся: сядзіць Карпей пад дубам і ціха грае на гуслях. Так і пражыў ён у гэтым лесе яшчэ сто і семнаццаць гадоў. Лес гэты цяпер носіць яго імя, а ўрочышча называецца Кожанава.

У дзяцінстве Аляксандр Піліпавіч не вельмі верыў гэтаму паданню. А цяпер усё часцей пачынаў задумвацца над ім. Мінула колькі часу, і ляснік адчуў у целе бадзёрасць — такую калючую і свежую, як крынічная вада.

Пачалі садзіць лес. Меч Колесава —зручны сталёвы трохкутнік так спрытна хадзіў у руках лесніка, што гэта адразу заўважылі. Яго дбайнасць ухвалілі, а потым даручылі спецыяльна займацца пасадкай лесу ў Кругавіцкім лясніцтве.

Як садзяць лес? Мечам Колесава робяць ямку, апускаюць у яе саджанец, корань прысыпаюць зямлёй і — расці на здароўе. Скажаце, проста? Зусім не! Трэба быць сапраўдным лесаводам, каб у пучку карэньчыкаў распазнаць цэнтральны, галоўны корань. Загнецца незнарок ён у лунцы— лічы, няма дрэўца: праз пяць, дзесяць гадоў загіне сасонка, не пойдзе ў рост нашчадак лясных асілкаў — гарэшчаты дуб-зімняк, зажурыцца, прысеўшы над зямлёй, ялінка.

Дрэўцы Гардзея не гінулі. Яны дружна цягнуліся к сонцу, пакідаючы на зямлі зялёныя цені. А ён садзіў і садзіў. І вясною, і ўвосень. І адзін, і з жонкаю, Надзеяй Данілаўнай. Спачатку сорак, а пазней — і восемдзесят гектараў за сезон. І не лічыў гектары, не выхваляўся імі, бо рабіў чалавек не для славы і пахвальбы. Як тое дзіця, радаваўся, калі на нядаўняй бясплоднай пустэчы, на лысых пясчаных пагорках пачынала гучаць зялёная рапсодыя. Лесавод ведаў, што гэта азначае: у лагчынах забурляць рэкі, на палях закаласіцца збажына. Бо лес дае жыццё зямлі, зямля — людзям.

А ЯК МАРКОТНА, як нясцерпна балюча станавілася на сэрцы, калі бачыў, як па-драпежніцку знішчаюцца лясы.

Неяк у час абходу непадалёк ад Лані выявіў ён парубку. Нехта неўзаметку, на скорую руку, зрэзаў чатыры сасны і прыкрыў голлем — разлічваў непрыкметна вывезці з лесу. Прыкінуў ляснік: заставацца тут і чакаць — няма сэнсу. Даведаюцца, што самога няма дома, не паедуць. Дамовіўся з Піліпам Ленкаўцом і Мікалаем Гайцюкевічам — леснікамі суседніх, лактышоўскіх, абходаў, каб тыя павартавалі зрэзаныя сосны, а сам пайшоў у вёску.

Цэлы дзень корпаўся Гардзей каля свайго дома — на віду ў людзей: рамантаваў падстрэшак, змяніў колле на прызбе, а ўвечары нават завітаў у краму, дзе ў гэты час збіраўся ледзь не кірмаш. Нехта з вяскоўцаў пацікавіўся:

— Штойта сёння, Піліпавіч, ад лесу адбіўся? Глядзі, каб не нашкодзілі там парубшчыкі!

— Не нашкодзяць! — наўмысна абыякава адказаў Гардзей.

— Каб чутае ды бачыць...

А раніцай уся вёска гаварыла пра парубшчыкаў. Злоўленыя на месцы злачынства, Кастусь Гайцюкевіч і Аркадзь Ломскі дзён праз колькі прадсталі перад народным судом.

На якія толькі хітрыкі ні пускаліся хапугі. Але былога партызанскага разведчыка цяжка абвесці вакол пальца.

Неяк Мікалай Высоцкі выбраўся ў лес у навальніцу. Перад гэтым сп'яна ён пахваляўся перад вяскоўцамі:

— От пабачыце, ашукаю Алеся. Не верыце? Успомніце маё слова. Спадцішка ашукаю.

— Лёгкае пяро, ды на страху не закінеш, — смяяліся з Высоцкага. — Дарэмная задума.

— А я закіну, — стаяў на сваім Высоцкі.

І вось ён у лесе. Завіхаецца сабе ля воза і не бачыць, што Гардзей ужо тут. А заўважыў — натапырыўся, нібы вожык:

— Хто ў лесе не злодзей—дома не гаспадар.

— Гаспадар!..—прыкрыкнуў Аляксандр Піліпавіч. — Хто ў лесе злодзей, той і дома не гаспадар. Паварочвай каня, паедзем у лясніцтва.

— У лясніцтва? — спалохаўся Мікалай. — Аштрафуюць... А ў мяне, брацe, сам ведаеш — жонка, дзеці.

— Ага, пра дзяцей успомніў. А колькі разоў я табе гаварыў: не паднімай руку — лес паслужыць і сыну і ўнуку...

З таго часу вось ужо каля дваццаці гадоў у абходзе Аляксандра Гардзея не бывае самавольных парубак. Дзесяць гадоў яго абход заслужана называецца абходам выдатнай якасці.

А ці ведаеце вы, што гэта такое — абход выдатнай якасці? Гэта, перш за ўсё, высокая культура ў лесе. Некалі Ф. Энгельс пісаў: «Лес—багацце краіны, а лясная гаспадарка — паказчык яе культуры». У абходзе выдатнай якасці, як у дбайнай гаспадыні ў доме, — усё на сваім месцы, ніхто не замінае. Вось так і ў абходзе Аляксандра Піліпавіча, на ўсёй цяперашняй плошчы — 1000 гектарах.

ЦЯЖЭЙ было змагацца з браканьерамі — такімі ж небяспечнымі для лесу, як і парубшчыкі. І гэтыя нішчаць з коранем. Грымне стрэл браканьера і—прыслухайцеся! — ахнуць, застогнуць ад цяжкай страты лясы.

Ды яшчэ з лесніка кпяць:

— Ну, што ты, Піліпавіч, чапляешся, бы той дзядоўнік... Ні за што, ні пра што на ражон лезеш. Што іх — палічылі ў цябе, гэтых самых барсукоў, глушцоў ды гарыхвостак? Аж смешна: за кожны няшчасны мурашнік спуску не даеш ні дарослым, ні дзецям. Дзівак... Куры ядуць мурашак, аж давяцца. Прывёз мурашнік на двор—лішні дзесятак яек у гаспадарцы. Ды якіх яек! Што тое лякарства...

Ляснік ведаў гэта. Але ён ведаў і іншае: чым больш у лесе дзічыны, чым больш мурашнікаў, тым здаравейшы лес, тым менш там лясных шкоднікаў. І нястомна тлумачыў гэта не толькі мельнікаўцам — усім людзям, што прыязджалі ў лес. Слухалі яго ўважліва. Дзівіліся і дарослыя, і дзеці, калі даведваліся ад Аляксандра Піліпавіча, што толькі адна вялікая калонія мурашак за дзень можа знішчыць да ста тысяч шкодных насякомых, а гарыхвостка за лета знішчае іх да мільёна. І людзі пачалі дапамагаць лесніку ахоўваць лес.

Гадоў з дзесяць назад усіх абурыла навіна: хтосьці з браканьераў параніў ласіху. Леснікі з ног збіліся, шукаючы яе. Не знайшлі. Рашылі, што загінула недзе ў балоце. А праз два дні мясцовыя школьнікі, гэтыя лепшыя сябры лесніка, навялі яго на крывавы след. І пацягнуўся ланцужок людзей з зялёнымі пятліцамі — Аляксандр Гардзей, Піліп Ленкавец, Якаў Бондар і Віктар Тамашэўскі — па гэтаму следу. Злавілі ласіху і прывезлі ў вёску да фельчара. Тысячы людзей збегліся тады не толькі паглядзець, як пасля аперацыі адпускаюць на волю лясную прыгажуню. Усе вельмі абураліся злачынствам браканьераў. Многія зразумелі, што хадзіць на паляванне з фотаапаратам куды лепш, чым са стрэльбай...

Таму і сёння да ціхай лясной Лані, дзе шчабоўкаюцца нястомныя будаўнікі-бабры, спакойна прыходзяць на вадапой ласі і казулі, жыруюць паўз берагі і ў лясных нетрах верныя сябры лесу—барсукі, гарнастаі, куніцы.

У АПОШНІ ЧАС у абходзе Аляксандра Гардзея не садзяць малады лес — няма плошчы. Аднак і цяпер, калі славуты меч Колесава замянілі лесапасадачныя машыны, ляснік не можа сядзець, склаўшы рукі: у лесагадавальніку ён штогод вырошчвае для Хатыніцкага, Радзялавіцкага і іншых лясніцтваў не менш мільёна саджанцаў сасны і елкі.

Гэта — на сто гектараў новых лясоў!

Вось ідзе ён квартальнай прасекай —роўненькай, як струна. Ідзе хутка, спорна. І здаецца, што дрэвы прыціхлі, выцягнуліся перад ім, нібыта салдаты на паверцы.

Можа і вам давядзецца ў дзесятым абходзе Кругавіцкага лясніцтва спаткаць гэтага чалавека. Шчыра прывітайце яго. Успомніце: ён — сваімі рукамі — пасадзіў 1126 гектараў лесу, вырасціў саджанцаў — на 1127 гектараў. Хіба ж не заслугоўвае ён, каб перад ім зняць шапку?

Ганцавіцкі раён.







У «Літаратуры і мастацтве» ад 24 ліпеня г. г. у карэспандэнцыі «Калі ажывае дрэва» расказвалася пра творчасць лідскага мастака Вілена Сільвановіча. Сёння мы друкуем некаторыя з яго новых работ.

Фота Я. Пятакіна.

най канторкі, каб ведалі, што ён заўсёды, усё і ўсіх бачыць. Адчыніў дзверы—Валік Аўдульчын стаіць каля дошкі аб'яў. Не глядзіць на Нямтура, тыцкае пальцам у штодзённы лісток зарплаты.

— Не было і не будзе праўды,—гаворыць шафёр.—Дзед Аўсей зарабіў шэсць рублёў на стажарнях, а я пяць за ўчарашні дзень.

— Зарабіў, значыць,—кажа Нямтур.

— Я сем рэйсаў зрабіў з балота да сціртаў.

— А ён, можа, восем. Чорт яго ведае, не бачыўшы.

— На кані восем раз з лесу справіцца? Памрэ, не з'ездзіць.

— Ой, хопіць і з цябе пяцёркі...

— Хопіць то хопіць, але ж абідна. Ганяешся дзень, як ненармальны...

— З Яснаўкі ў Карпілаўку, пакуль на маскоўскую не натрапіш.

— Не буду ж я тваю самагонку піць.

— Выпіў бы, ды няма. Баба з бутлем леснікам паставіла.

— І не адліла пляшачкі дзве, скажаш?

— Не адлівала. Нямнога было.

— Не ведаю я тваю Алесю... Забег раз пахмяліцца. Даў рубель. Прынесла паўлітра, шклянку падала на стол. А каб акрайчык хлеба ці часначыну...

— Што ты возьмеш з бабы... Магла не даць. Не любіць яна п'яніцаў.

— Дагэтуль не прывучыў? Эх, Нямтур, Нямтур...

— Сваю возьмеш—паглядзіш, як гэта лёгка пераламаць. Добра ўсё ідзе, добра. А тады як нахлыне на яе нейкая трасца, хоць у магілу лезь...

— Жаніцца я, Нямтур, хачу. І дзеўка добрая ёсць. А як падумаю, які я, адкладаю сваты... Пакуль і гэта за каго не выскачыць замуж... І не ажанюся ўжо, мусіць... Мацеры адной цяжка... Мне гады ідуць...

— Чорт яго, сказалася так. Які ж ты, Валік, п'яніца? Палучку мацеры аддаеш?

— У тым то, што грошы мае пры мне.

— Сам-насам... Зарабіў — пусціў. А як жа гаспадарка?

— Парасят увосень купіў — рохкаюць у хляве. Зярно з калгаса дамоў прывёз, сена... Селядца калі, каўбасы магазіннай прыкуплю...

— З адзення ёсць што трохі?

— Чыстыя штаны, пінжак... Паліто асенняе—маці купіла некалі перад прыходам са службы.

— Не паверу, Валік, што нельга ўтрымацца ад выпіўкі. Колькі мною перапіта, чорт яго. Але няма—дык і не трэба. Месяц буду не піць, два. Пакуль якія госці...

— Я мог бы зусім не піць. Але ж кампанія...

— Распіліся так механізатары, чорт яго ведае.

— Самі вінаватыя. Патураем адзін другому. Праўду ў вочы баімся сказаць. А калі б мы раз, другі перагаварыліся на людзях, скажам, на сходзе—задумаўся б кожны... Адзін старшыня не выведзе п'янства... Вось і я думаю залажыць цябе з самагонкай, Нямтур.

— Чаго ты, Валік, прычапіўся. Выгналі там к маю для сябе. Даўно ўжо не прадавалі... Не думаў, што ты такі помслівы.

— Не ў помсце, Нямтур, справа... Ты тады падаткнеш міліцыі, што я п'яны езджу. Адбяруць правы. І я ў горад алюрам. На завод.

— Знойдуцца і там дружбакі.

— Пакуль знойдуцца, можа, у тэхнікум паступлю. Каб занятак які быў вечарамі... Ды на завод п'янага не пусцяць... Бачыў я, як трактар ездзілі палучаць, якая там варта... Пенсіянеры. Патомныя рабочыя стаяць у прахадной. Калі што якое—самі такога дразда зададуць. Не бягуць да начальства... А чаго ты тут стаіш? Адна назва — вартаўнік.

З'ездзіў бы ты лепш на вяселле ў Яснаўку, Валік, пакуль не жаніўся.

— Паехаць напіцца? Па такой дарозе? У мяне, Нямтур, паўлітра маскоўскай у машыне. У любы час вып'ю.

— Дзяўчат бы прывёз. Алёна мая там.

— Нідзе не дзенецца, прыйдзе... Разумнага бацькі дачушка. І язык падвешаны...

— Сказала табе што?

— Каб жа толькі сказала... Зімою неяк было. Ідзем мы з клуба. Я яе пад руку. Жартам, канечне... Як адскочыць убок, як залемантуе... Трэба, маўляў, ёй мой гнілы плот.

— Правільна ўсё сказала... А не мог бы ты, як усе, новы плот паставіць, вароты зрабіць?

— Пастаўлю... Слухай ты далей... Прыйшоў я дамоў, раздзеўся. Ніяк не магу заснуць. Устрашылася мне з таго Алёна. Вар'ятка такая... Ды гэта ж дзяўчына, маладая. А замуж вазьмі...

— Узяў, дык бы і жыў.

За акном ярка ўспыхнула маланка, раскацістамоцна ўдарыў пярун.

Нямтур паківаў нечага галавою, уздыхнуў. Глядзеў далёка ўперад невідушчымі вачыма — хто яго ведае, пра што і каго думаў.

Пануры, стомлены зіркаў то на Нямтура, то на дошку з нарадамі Валік. Упэўнены ўжо быў, што не перачакаць яму дождж, а дадому адыходзіць не хацелася. Хай прабачае Нямтур, думаў, за ўсё, што сказаў, хай ведае, які ён адкрыты, прамы не выпіўшы.

— Чорт яго, сяджу тут,—раптам спахапіўся, рынуўся да дзвярэй Нямтур, агляну ўся на Валіка:—А ты, часам, не зубы мне загаворваў?

Ён хітравата ўсміхаўся.

— Твае зубы хіба загаворыш?—сур'ёзна адказаў шафёр.

— З леснікамі сёння бачыўся? — дапэўніваўся Іван.

— Дзе я іх буду бачыць—свіней вазіў здаваць у раён.

— Глядзі, хлопец. Хай толькі не стане калёс.

— Прыдумаў ужо калёсы?

— Пагляджу толькі — будзе за калёсы і за атосы.

Нямтур нырнуў у цемру, зачмякаў гумавымі ботамі па гразі—хутка прапаў у пошуме дажджу і ветру.

У непаразуменні хвілін колькі тупаў пасярод хаткі Валік, не мог даўмецца, прычым ён да леснікоў, нейкіх калёс. Махнуў, нарэшце, рукою—мала што, маўляў, пад злосць мог сказаць Нямтур. Патушыў святло. Нацягнуў пінжак на галаву. Зачыніў хатку, каб не зеўрала, не рыпела завесамі ўсю ноч. Паўз кароўнік спешна падаўся прамой дарогай на вёску, на размытыя, затуманеныя агні ліхтароў скрозь па вуліцы. З кожным крокам усё вышэй да горла прыступала казытлівая нудота з грудзей—хацелася выпіць. Але ж не вяртацца такою грымотаю ў машыну. Не такі ён яшчэ і п'яніца, думалася самому сабе.

А Нямтур пад сцяною канюшні дрыжэў, няроўнячы, як асінавы ліст—упершыню на жыцці так адалела яго боязнасць. То, здавалася, леснікі сочаць за ім з-за вуглоў, крадуцца да яго, каб схапіць за горла, чорт ведае за якую правіннасць. То ўяўлялася заплаканая Алёна—адна ў цёмным шумлівым лесе. То Алеся зусім блізка шлёпала па вадзе вялікімі, не па назе, керзавікамі—ішла, нібыта паглядзець, ці не заснуў ён...

Можна было б ісці ў кароўнік ці хатку, захінуцца дзе ў куток і падрамаць нават, каб не гэтыя леснікі...



Алёна просіць тэлевізар купіць. Грошай, ведае, на тры сабрана. Але з чым тады ў горад паедзе, як будзе паступаць вучыцца?

Дождж усё не сціхаў, грымела навальніца. І астатак ночы прастаяў бы Нямтур так у одуме, калі б раптам не зарупела аглядзець статак у кароўніку. Ферма першае месца ў раёне займае па надоях, па прывесу — калгас ад яе самы большы прыбытак мае. Паспрабуй не ўгледзь — з'есць старшыня.

Ідзе Нямтур, угнуўшы галаву, чуе, і вушам сваім не верыць, што нехта дзверцай машыны ляскае, не можа зачыніць. Вядома, не Валік. У таго ўсё гладка, без шуму абыйшлося б. Спыніўся непадалёк ад грузавіка, угледзеўся ў цемру — ходзіць чалавек. Калі б Валік Аўдульчын браў, скажам, парадзіху ў бальніцу адвезці, зайшоў бы ў хату, дачакаўся яго. Жонка разыгрывае? У іх жа адзін плашч — не пойдзе па такім дажджы. І старшыня гразотаю не паедзе.

Нямтур ужо наблізіўся да самага кузава, слухае, як часта дыхае, стараецца злодзей, як тыркае нагою на старцёр, як не слухаецца яго машына. Невысокі ростам, відаць, шчуплы. Але можа з якім рэвальверам у кішэні. Каб ведаць, што сапраўдашні злодзей, — кіем бы якім звёз паміж вушэй. А можа шафёр які з суседняй брыгады? Не дазволена і яму браць машыну без спросу, але ж біць не будзеш.

Нямтур плашч скінуў з плеч. Пад завязку, як кажуць, набраўся злосці. А як толькі той каля бензабака нечага сагнуўся, ступіў які крок, можа, пад капот заглянуць — кошкай сігануў на яго вартаўнік, паваліў, прыціснуў грузным целам да зямлі. Работы той — імгненне, а задыхаўся Нямтур, слова прагаварыць не можа.

— Праехаць захацелася, чортава тваё семя!—гаварыў Нямтур. — Я цябе правязу, сукін сын...

— Пусціце, дзядзечка, — азваўся зусім яшчэ малады, тонкі голас. — Пусціце...

— Пракурор цябе пусціць, — памацаўшы кішэні, Нямтур папружкай завязаў назад рукі злодзею, сам устаў з зямлі, хлапцу пасобіў падняцца. Ад душы, як кажуць, разоў колькі яго стармаснуў.

— Хто табе дазваляў браць машыну?

— Ніхто...

— А сукін жа ты сын!

— Мацерын.

— Агрызаешся, чортава семя! Адзін быў?

— Адзін... Пусціце, дзядзечка...

— Міліцыя цябе пусціць... Прама, шагам марш! Пойдзем да Валіка Аўдульчынага. Ой жа дасць?

— Вам лягчэй стане?

— Балець не будзе, чорт яго... А навошта, скажы, табе гэта машына была?

— Ехаць! На што ж яшчэ машына?

— Ехаць то ехаць, чорт яго... Красці машыну... У такое надвор'е... Маладому...

— Ваша філасофія мяне нешта не сагрэе.

— Прамок?

— Як жа можна інакш на дажджы?

— У хляве тут нейкая целагрэйка з зімы валяецца.

— Далі б хоць такую. Да цурыначкі прамок.

— Не думай толькі ўцякаць.

— Са звязанымі рукамі?

— Пастой тады, забягу тут...

Для Нямтура ўжо не існавала ні леснікоў, ні статку, ні Алёны за цёмным лесам, ні адной у хаце Алесі пры такой грымоце. Ён быў заняты злодзеям. Не цярпелася яму хутчэй дайсці да Аўдулькі, дабудзіцца Валіка. Хай тады рашае, як быць. А то, чаго лепшага, падумае, што сам ён, Нямтур, шукаў паўлітру ў кабінцы.

Каля кароўніка, кроках у дзесяці ад злодзея, Нямтур спыніўся, агляну ўся назад. Хлопец стаяў, як укапаны. На частых, на ўсё неба бліскавіцах, нават, праз косы, усё яшчэ спорны дождж, праглядаўся светлы юначы твар, мокрыя чорныя валасы, лёгкае, у абліпачку, адзенне на шчуплай постаці. Цень таго чалавека, падумалася Немтуру, а чортам творыць. Прадубее, дык і да суда не дажыве.

Імгненна ён сігануў пад жэрдку, якой закладваў вароты, прабег у кут, вобмацкам знайшоў целагрэйку, згэмтаў яе пад крысо расшпіленага плашча, вынырнуў хутка на дождж. Злодзей стаяў на тым жа месцы. Не зразумець: ці добры такі хлопец, ці ўстрашыўся Нямтура? Хоць бы ўсё роўна не ўцёк, каб і дапусціў які дур у галаву.

Амаль поруч, можна падумаць, бацька і сын, няспешна ішлі яны ў вёску, гаварылі.

— Дык куды ты думаў ехаць, чорт на цябе?—дапэўніваўся Нямтур. — Машына ж калгасная. Грамадскі транспарт. Пяць год могуць прыпячы.

— Хай пякуць.

— Не быў яшчэ, не кіпяціся. Дорага каштуе фунт ліха.

— Вы былі, ведаеце?

— Не гаварыў бы, калі б не ведаў. Пройдзе жыццё маладое, шчасце — не навярстаеш у дарозе...

— Няма ў вас сям'і?

— Сям'я ёсць... Жонка, дачка... А радасці мала. Не любіў я Алесі...

— Было замуж не браць нялюбую!

— Чорт яго, любая не пайшла. Адмовіла Марфа.

— Ці не Яснаўская, што сына сёння жэніць?

— А ты што, Яснаўскі?

— Адкуль жа, вы думалі?

— Марфа сына жэніць! — Нямтур схапіў хлопца за плячук. Яны спыніліся. — На вяселле, чорт на яе, не пазвала... Каго ён, адкуль бярэ?

— Вясковую нашу, даярку.

— Ай, Марфа-Марфа, чорт на цябе. Вінаватым зрабіла... І пра гулянку нічога не сказала.

— Забылася, можа. Ці далёкае сваяўства.

— Сваяўства, чорт на яго... Пайшлі.

(Заканчэнне на 13-й стар.).

# Паэтычная паверка

*Мікола* ФЕДЗЮКОВІЧ



## ІМГНЕННЕ

Працягвайся,
працягвайся,
імгненне!
Кружы,
маёй любові матылёк,
лакуль блукае ў цемры агенёк,
што ўваскрасіў высокае
імкненне...
Аддайся апантанаму ўтрапенню
ў змаганні з развярэджаным
агнём;
згары дашчэнту ў полымі, альбо
ўтаймуй непаслухмянае праменне.
Усё альбо нічога! —
твой дэвіз,
а гэта значыць:
ці уверх,
ці уніз...
Не дазваляй,
каханая,
спыніць
дзівосны танец —
танец прыцягнення...
Пакуль звініць,
трымціць зблізкэння ніць,
працягвайся,
працягвайся,
імгненне!

●

Дзяўчыне таямніча-ваяўнічай,
дзяўчыне з дабрынёю ў вачах,
прыснілася густая навальніца
ў маіх густых някошаных лугах.
Дзяўчыне, цемнакосай і раскосай,
чыё імя —
высокае,
як стэп,
прысніўся бор
у першародных росах
у ранішнім, спакойным харастве.
Дзяўчына Беларусь маю
прысніла...
Ды рукі зноў працягвае туды,
дзе снег —
ад небасхілу
к небасхілу,
дзе далеч —
неабдымная,
як дым...

●

Каб быць шчаслівым,
шчасце аддаю—
табе!..
Твая любоў —
на ўзроўні сэрца...
Тут —
бачу постаць стройную тваю,
там —
чую,
голас твой ка мне нясецца.
Сумую,
радуюся,
гавару —
ва ўсім
твае шукаю падабенства...
Лячу з гары —
здаецца, —
на гару,
Іду ўгару —
лячу,
здаецца,
ў бездань.
Што космас,
што зямля —
гармонія адна?..
Сціскаюся,
адзін брыду дахаты...
Стаю —
як снежны дэман —
ля акна,
дзе замарожана тваё дыханне...

●

Чаму так атрымалася — няўцям:
былі мы разам, сёння кожны —
сам...
У нашых дзівасілавых лясах —
густая, непралазная лаза.
Дзе пекна выгіналася рака —
шамрэе нелюдзіма асака.
І гарызонта алая мяжэнь
ужо не раздзяляе ноч і дзень.
Чаму, чаму на шэрым небе серп
узыходзіць з боку левага...
Няўсцерп!
Ці не таму, што за тваім акном
змяшаўся снег з маланкавым
агнём...
Відаць, і праўда цесна на Зямлі,
што ў згодзе жыць мы разам
не змаглі...

●

Ну як жывеш ты
без мяне
ў тым
бясконца-павярхоўным,
белым горадзе —
сярод трохпакаёвай нематы
і аднадушнай гордасці?
Шчаслівая? Не цяжка?..
І няўжо
ніхто не кліча,
нікуды не гоніць
кватэрны сум?..
...Як па нажу — нажом,
звініць чыгунка нетутэйшым
звонам...
Пустэльная дарожная жуда...
І выпадковых пальцаў дотык
зябкі...
Няма вастрэй жадання,
чым жадаць
світальных рук
маўклівай азіяткі!
Якая ёсць —
не думаю пакуль;
якой была —
і думаць не жадаю,
сястра майго натхнення і пакут,
мяцежна-апантаная, чужая...

●

Навошта сустракацца нам, калі
заўсёдная разлука непазбежна —
як непазбежна полымя калін
пад гэтым небам каламутна-
снежным?
Навошта спагадаць і суцяшаць
усмешкаю пакутліва-бадзёрай,
калі паблякла наша сенажаць
і пачарнелі нашыя азёры?
Навошта, ну навошта столькі
слоў?..
Міне зіма — і новыя зязюлі
разбудзяць тых нявінных салаўёў,
што пад чужымі кронамі заснулі.
Ну, а пакуль я не ў палоне сноў,
пакуль я з цішынёю не
звянчаўся, —
я бласлаўляю і турбую зноў
цябе, маё шчаслівае няшчасце...

●

Так, да канца яшчэ далёка:
адно імгненне—сто гадзін...
Твой высакосны лёс — як вока —
адчайна ў вочы мне глядзіць.
У непазбежнасці нядрэмнай
я адчуваю першы раз,
што выпадковасць не дарэмна
злучыла нас...
Нашто мне знаць: так не бывае?
Нашто мне знаць: сон ці не сон?..
У імені тваім палае
зара усіх завейных дзён!
Нашто мне знаць, якія хвалі
твае прымалі берагі...
Не хвалявалі, не кахалі,
хоць — дзякуй богу — збераглі!
Цяпер напеў адзін злучае
і сум і радасць... Час бяжыць...
Так, час бяжыць... Бывай!..
Чакаю...
Чакаю — значыць буду жыць.

# БелСЭ, том II

Чым зараз заняты беларускія энцыклапедысты? Што сёння на іх рабочым стале?

На гэтыя і іншыя пытанні карэспандэнта газеты «Літаратура і мастацтва» адказаў вучоны сакратар БелСЭ, кандыдат гістарычных навук А. Петрашкевіч.

— Мінуліся хваляванні за лёс першага тома,—гаворыць Аляксандр Лявонцьевіч. — Першую работу беларускіх энцыклапедыстаў грамадскасць і друк рэспублікі сустрэлі ў асноўным станоўча, прыхільна. І гэта, вядома, акрыліла наш калектыў. Вы, відаць, заўважылі ў вестыбюлі нашага новага будынка вітрыну: «БелСЭ ў друку». Там сабраны ўсе рэцэнзіі, рэпартажы, інфармацыі. Гэта таксама гісторыя і надзвычай дарагая для нас. Уважліва вывучаем крытычныя заўвагі.

**— Падпісчыкі з нецярплівасцю чакаюць другі том БелСЭ. У якім ён стане?**

— Прыемна паведаміць, што днямі пачынаецца друкаванне другога тома. Ён пазнаёміць падпісчыкаў амаль з трыма тысячамі тэрмінаў. Завяршаюцца артыкулы на літару «А», поўнасцю ўключаны матэрыялы на літару «Б» і часткова — на «В». Мы разлічваем, што сігнальны экземпляр другога тома БелСЭ будзе гатовы да гадавіны Кастрычніка.

Рукапіс трэцяга тома БелСЭ гатовы да друку, і мы днямі здаём у набор яго першую частку.

**— Раскажыце, калі ласка, пра другі том. Што ў ім будзе найбольш цікавага, вартага ўвагі?**

— Не цяжка здагадацца, што ў томе гэтым вядучае месца зоймуць артыкулы, звязаныя з Беларуссю.

Суміраваная думка вучоных розных галін навук пададзена ў цэнтральных, на нашу думку, артыкулах гэтага тома—«Беларусы», «Беларуская мова», «Белая Русь», «Беларусь» і інш.

Вялікі раздзел займаюць у гэтым томе артыкулы пра тэатры. Сюды трапілі ўсе тэатры, назва якіх пачынаецца з слова «беларускі». Такім чынам, чытачы пазнаёмяцца з гісторыяй стварэння ўсімі любімага тэатра-юбіляра імя Янкі Купалы, паўвекавы юбілей якога грамадскасць рэспублікі неўзабаве будзе адзначаць. Будуць артыкулы пра тэатр оперы і балета, тэатр імя Якуба Коласа і інш. Аматары мастацтва, спецыялісты-мастацтвазнаўцы знойдуць у гэтых матэрыялах звесткі пра ўсе спектаклі, якія паставіў тэатр.

Нямала месца зоймуць у гэтым томе артыкулы, прысвечаныя навучальным установам: «Беларускі дзяржаўны універсітэт», «Беларуская дзяржаўная кансерваторыя», «Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут», «Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія»...

На маю думку, не пакіне раўнадушнымі нашых чытачоў артыкул «Беларуская энергетычная сістэма».

Можна нагадаць і артыкул пра будаўніцтва. У ім ідзе шырокая гаворка і пра будаўнічыя матэрыялы і пра навіны навукі і тэхнікі ў будаўнічай справе.

Разам з Аляксандрам Лявонцьевічам гартаем карэктурныя лісты будучага другога тома БелСЭ. Артыкулы, артыкулы,, фотаздымкі краявідаў роднай прыроды, партрэты вядомых дзеячоў: паплечнікі У. І. Леніна браты Бонч-Бруевічы, вядомы савецкі палкаводзец В. К. Блюхер, адважная разведчыца Таццяна Баўэр, герой грамадзянскай вайны І. А. Біч (псеўданім Таёжны), бацька і сын Багдановічы, народны артыст БССР С. Бірыла, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Янка Брыль, паэтэса Канстанцыя Буйло, народны мастак БССР Іван Ахрэмчык...

Карацей кажучы, у другім томе змешчана каля трох тысяч артыкулаў. Пра ўсе, вядома, не раскажаш. Хай лепш самі падпісчыкі чытаюць наш том і шукаюць у ім патрэбныя матэрыялы.

Я. ДАНСКАЯ.

КІНО

# БУДНІ І СВЯТЫ ІВАНА НІКАЛАЕВА

...Ідзе чалавек па будоўлі, ідзе да месца свайё працы. Потым мы бачым яго з кельмай за работай. бачым, як спрытна ён кладзе тынкоўку на сцены, столь. Бачым яго адкрыты твар, вузлаватыя рукі. А яшчэ — як ён смяецца за святочным сталом з усёй брыгадай у дзень свайго нараджэння — 51 год споўнілася, лічба!.. Як дзеліцца сваімі думкамі па рабоце, як пільна сочыць за дзеяннем «Прынцэсы Турандот». Не таму, што ён апантаны тэатрал, а таму, што на сцэне — яго родная дачка Тамара, якая нарадзілася ў партызанах. Над жыццём немаўляці, як гэта нярэдка здаралася ў той вірлівы час, навісла пагроза: ад яе хацелі (жахліва падумаць!) пазбавіцца, каб не замінала. «Ну, былі такія нават... Мне і шкода было дзіцяці, але нічога не зробіш. Гэта ж атрад. Я сказаў, што ж, таварышы, трэба напэўна...» Гэта, нібы разважае Іван Дзмітравіч.

На праглядзе стужкі «Дні Івана Нікалаева», які быў спецыяльна арганізаваны на студыі «Беларусьфільм» для сям'і героя фільма, мы сядзелі за мікшэрскім пультам і адначасова бачылі Івана Дзмітравіча на экране і ў «жыцці». Ён сядзеў наперадзе нас з жонкай і дзвюма дочкамі — Тамарай, артысткай Гродзенскага драматычнага тэатра і Святланай — студэнткай Мінскага тэатральна-мастацкага інстытута. І ніякай не адчувалася розніцы паміж гэтым чалавекам, які знаходзіўся ў глядзельнай зале, і тым, што «жыў» на экране. Такая жыццёвая адпаведнасць, якой дамагаліся стваральнікі кінастужкі — сцэнарыст Арнольд Браілоўскі, рэжысёр Аляксандр Канеўскі і кінааператар Эдуард Гайдук — падкупляе і ўражвае.

З боку фармальнай пабудовы — стылістыкі і мантажу кадраў — стужка «Дні Івана Нікалаева» асабліва не вылучаецца з серыі карцін чалавечых партрэтаў, што выпушчаны аб'яднаннем «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» у гэтым годзе. Імкнучыся заглянуць у душу героя, паглядзець на вытокі яго ўчынкаў і мужнасці, зразумець «сутнасць рэчаў», рэжысёр і кінааператар адмовіліся ад эфектных планаў. Яны свядома аберагалі тое, што было аб'ектыў камеры, ад туманнай шматзначнасці, намёкаў, недагаворак.

Праўда, дзе-нідзе мы пачынаем пазнаваць «кіно». Калі Іван Дзмітравіч ідзе па будаўнічай пляцоўцы і разважае ўголас, нас гэта кранае сваёй прастатой і дасціпнай формай рашэння «плана». Калі мы як быццам сядзім разам у тэатры і глядзім на яго дачку ў ролі прынцэсы Турандот — хочацца паціснуць руку і апаратару, і рэжысёру, і асвятляльнікам, якія хораша «паклалі» святло і цені на твары бацькі і дачкі. Тут проста было аўтарскае замілаванне героямі, выяўленне іх пачуццяў і сімпатый, якія, безумоўна, перадаюцца і нам. Нас глыбока хвалюе і парад ветэранаў, сярод удзельнікаў якога і Іван Дзмітравіч Нікалаеў, і асабліва яго-ны каментарый: што гэта трэці парад у яго жыцці, што ўсё радзейшымі становяцца калоны, і ўсё больш сівізны ў валасах...

Але калі мы глядзім сцэну, дзе адбываецца нарада брыгадзіраў, чуем галасы і мала разумеем з таго, што яны гавораць, а галоўнае — дзеля чаго, — гэта, канечне, «кіно». Зразумела, не ў лепшым сэнсе гэтага слова. І калі паказаны тынкоўшчыкі за работай: дружны ансамбль рук і кельм ды ў дадатак цені ад іх на столі, падлозе і сценах — такое ж самае «кіно». Ці то выпадкова, ці то зразумеўшы, што крыху «перабралі» — гэты план выратавалі музыкай кампазітара Ю. Цырука: яна западае ў душу сваёй пяшчотнасцю (як, дарэчы, на працягу ўсяго свайго гучання ў стужцы), лёгкім адценнем на пераймáнне беларускіх мелодый.

У фільме цесна перапляліся грамадзянскія і лірычныя пачуцці дакументалістаў і іх героя. І выяўленчы лад, і гукапіс, і музыка стужкі скіроўваюць нас на роздум пра чалавека, яго месца і ўдзел у жыцці.

В. ПОЛЯК.

# РЭПЕЦІРУЕ БАРЫС РАЙСКІ



10 гадзін раніцы.

На дырыжорскую падстаўку падымаецца Барыс Райскі.

І вось загучала музыка. Але дырыжор спыняе аркестр:

— Трэба больш жыва, гэта ж уступ да песні жаваранка! (Ідзе рэпетыцыя арыі з аперэты Ю. Семянякі «Спявае «Жаваранак»).

А потым спявачцы:

— Не наскоквайце на канец фразы аркестра, спявайце цяплей, вы ж пяеце аб роднай краіне. Дарэчы, валторны і трамбоны, трэба іграць цішэй, а вы, Юра, рабіце рух не на ля, а на сі, гэта кульмінацыя вашай фразы.

Яшчэ праз хвіліну аўтару музыкі:

— Кажаце, вельмі гучна? Можна зрабіць цішэй, але тады страціцца экспрэсія, хай лепей спявачка прыбавіць крыху гуку...

І зноў да аркестра (я ведаю, гэтую фразу мастацкі кіраўнік паўтарае вельмі часта):

— Аркестр павінен быць адзіным цэлым, каб падпарадкаваць усе свае імкненні і думкі мэце—раскрыць змест твора, данесці да слухача кожную яго фразу.

Рэпетыцыя працягваецца.

Так кожны дзень.

Каб сотні тысяч слухачоў з павагай гаварылі зусім простую і звычайную фразу «Іграе аркестр Барыса Райскага», трэба працаваць.

Працаваць.

У перапынку я падыходжу да Барыса Іпалітавіча:

— Вы выконваеце розныя рэчы: ад оперных мантажоў і сімфанічнай музыкі да эстрадных і «чыста» джазавых твораў. Як вы сталі, калі можна так сказаць, такім «разнапланавым» дырыжорам?

— Я не вінаваты, — усміхаецца ён, — гэта ад бацькі. У нас у доме пастаянна гучала музыка. Многае дало мне знаёмства з выдатным дырыжорам Пазоўскім.

— А хто вашы настаўнікі?

— Да дзесяці гадоў бацька, а потым займаўся ў музычным вучылішчы па класе віяланчэлі прафесара Шпільмана. З пятнаццаці — пачаў іграць у камерных ансамблях, прымаў удзел у хатніх канцэртах, а яшчэ праз два-тры гады стаў артыстам сімфанічнага аркестра.

— Што вы можаце расказаць аб сваёй дырыжорскай працы?

— Пачалася яна ў сімфанічным аркестры, потым працаваў у студыі грамзапісу і ў эстрадных калектывах.

— Якія з вашых дырыжорскіх прац на Беларускім радыё і тэлебачанні найбольш запомніліся?

Барыс Іпалітавіч задумаўся.

— Бадай, гэта быў твор Ігара Лучанка — кантата на тэкст Янкі Купалы «Курган», які мы запісалі ў 1962 годзе разам з салістамі і хорам. Мяне гэты твор крануў шчырасцю, цеплынёй і нейкай, я б сказаў, юнацкай непасрэднасцю. У тым жа 1962 годзе мне давялося працаваць над мантажом оперы Пятра Падкавырава «Павел Карчагін». Музыка яе, мне здаецца, вызначаецца шырокай напеўнасцю, рытмічнай разнастайнасцю, і разам з тым кампазітар не баіцца складаных гарманічных спалучэнняў, вострых гармоній і нечаканых інтанацыйных зваротаў.

Потым было яшчэ нямала запісаў буйных твораў беларускай музыкі. Гэта мантаж лірыка-камічнай оперы Яўгена Глебава «Твая вясна», кантата Мікалая Аладава «Сціплы і просты», сюіта для салістаў, хору і аркестра «На Кубу прыходзіць дзень» Леаніда Смялкоўскага, але аб усіх расказаць цяжка.

— А што вы можаце сказаць аб эстраднай музыцы, якую выконвае аркестр?

— Вы, напэўна, ведаеце, што беларуская эстрадная музыка нарадзілася зусім нядаўна. І калі гадоў дзесяць назад можна было назваць дзесяць-пятнаццаць твораў, дык цяпер у творчым партфелі аркестра — літаральна сотні. Сярод іх — фантазія на тэму беларускай народнай песні «Перапёлачка», «Палеская сюіта», некалькі дзесяткаў аркестравых п'ес Яўгена Глебава, творы Дзмітрыя Камінскага, Марка Шнейдэрмана, Івана Кузняцова, Эдзі Тырманд, Юрыя Семянякі, Дзмітрыя Смольскага, Ігара Лучанка, Рычарда Буцвілоўскага, Уладзіміра Чарадніченкі і многіх іншых кампазітараў, з якімі наш аркестр ахвотна супрацоўнічае.

«Ахвотна супрацоўнічае?» — не, гэта не тыя словы! Цяжка пераацаніць ролю аркестра і яго кіраўніка ў развіцці беларускай эстраднай музыкі. Дзякуючы ім беларускія творы загучалі на канцэртнай эстрадзе і па радыё, разышліся шматтысячнымі тыражамі ў запісе на грампласцінкі, «выйшлі» за рубеж. А ў сакавіку 1963 года Саюз кампазітараў Беларусі свой чарговы пленум цалкам прысвяціў песні і эстраднай музыцы. Адным з галоўных удзельнікаў канцэртаў гэтага пленума быў эстрадны аркестр Беларускага радыё і тэлебачання.

— На жаль, — уздыхае Барыс Іпалітавіч, — апошнім часам творчая актыўнасць беларускіх кампазітараў у галіне эстраднай музыкі знізілася. Мабыць, іх больш прыцягваюць буйныя оперныя і сімфанічныя творы... Але «падрастаюць» маладыя кампазітары, з якімі мы сябруем. Так, у рэпертуары аркестра ужо ёсць песні і аркестравыя п'есы самадзейных кампазітараў Фёдарава, Молера, Сакалова, Нагаўкіна, Петрашэвіча, Сарманта, Гомана і многіх іншых.

У аркестры ёсць група даволі таленавітых кампазітараў, якія ўдала спрабуюць свае сілы ў эстраднай музыцы — гэта артыст аркестра Гамаюнаў з яго п'есай «Роздум», Шпянёў, які напісаў «П'есу для аркестра», фантазію на тэму беларускай народнай песні «Я табун сцерагу». Я ўжо не кажу пра кампазітара Яўгена Грышмана, якому належыць цудоўная фантазія на тэму беларускай народнай песні «Чаму ж мне не пець», «Уверцюра», фантазія на тэму «Лясной песні» Алоўнікава і іншыя...

— Прабачце, Барыс Іпалітавіч, — умяшаўся ў нашу гутарку Юрый Семяняка, які таксама быў на рэпетыцыі, — калі ўжо зайшла размова пра Жэню Грышмана, то я мушу сказаць, што сваімі кампазітарскімі поспехамі ён абавязаны выключна вам.

І да мяне:

— Вы ж, пэўна, ведаеце, што добрых падручнікаў па інструментоўцы для эстраднага аркестра пакуль што няма. А Барыс Іпалітавіч добра ведае яе і заўсёды гатовы дапамагчы аўтару. Да таго ж ён выдатны знаўца джазавых стыляў і эстрадных форм, і ўсе кампазітары - пачаткоўцы, ды і мы, зрэшты, больш сталыя, вучымся ў яго.

Ён і сам аўтар музыкі да кінафільмаў, тэлеспектакляў, многіх эстрадных п'ес і песень. Дом народнай творчасці выдае яго «Дапаможнік для шасціструннай гітары», а ў выдавецтве «Беларусь» выйшла некалькі зборнікаў беларускай эстраднай музыкі, складзеных і адрэдагаваных ім.

Мы ідзём у музычную рэдакцыю, каб паглядзець каталог фондавай фанатэкі Беларускага радыё і тэлебачання.

Барыс Іпалітавіч перабірае карткі.

— Вось зусім нядаўні запіс — мантаж оперы Яўгена Глебава «Твая вясна», а вось больш позняя — песня Кіма Цесакова на словы Лукшы «Мінская дзявочая», Свердэля на словы Русака «Лаўскі бой», кантата Кузняцова на словы Дзеружынскага і Скапарава «За светлае юнацтва» і кантата Казачкова «Мая Беларусь».

Вялікае месца ў нашым рэпертуары займае ленінская тэматыка.

Раптам нашу гутарку перапыняе кампазітар Кім Цесакоў.

— А я вас шукаю... (гэта Барысу Іпалітавічу). Хачу паказаць «Мінскую сюіту»...

Папрасіўшы ў мяне прабачэння, Барыс Іпалітавіч раскрыў партытуру новага твора.

— Не, не, — пакачаў галавой Райскі,— тут саксафоны, мне здаецца, не патрэбны, перадайце гэтую мелодыю струнным, а вось тут — добра. Трэба толькі ўмацаваць гучанне медных духавых трамбонам.

І вось партытура прагледжана.

— А ведаеце, Барыс Іпалітавіч, — гаворыць Кім — я задумаў напісаць для вашага аркестра сімфонію і ўжо зрабіў накіды першай часткі. Вось паслухайце, калі ласка, і ён садзіцца за піяніна.

«Сімфонія для эстраднага аркестра» — гэта нешта новае ў музыцы, я з цікавасцю слухаю музыку будучага твора.

Канцэртна - эстрадны аркестр Беларускага радыё і тэлебачання часты госць на буйных прамысловых прадпрыемствах, Аркестр быў на гастролях у Кемераўскай вобласці, на Урале і ў Сібіры.

І свой расказ пра цудоўны аркестр і яго кіраўніка Барыса Іпалітавіча Райскага мне хочацца закончыць словамі рэцэнзіі «На арэне... эстрада», якая была надрукавана ў омскай газеце «Молодой сибиряк»:

«Не часта паслухаць эстрадную музыку можа адразу больш тысячы прыхільнікаў. Канцэртныя залы Омска не разлічаны на такую колькасць. Таму калектыў эстраднага аркестра Беларускага радыё і тэлебачання выбраў месцам выступлення арэну цырка...» Заканчваўся гэты артыкул наступнымі словамі: «...кіраўнік аркестра Барыс Райскі — душа калектыву. Сын дырыжора, ён усё жыццё прысвяціў музыцы...»

Усё жыццё! Таму ў яго такі аўтарытэт і вядомае імя.

**Дзмітрый ЖУРАЎЛЁЎ,**
**заслужаны дзеяч культуры БССР.**

Н А РУБЯЖЫ XIX—XX стагоддзяў А. І. Купрын трывала заняў месца сярод найбольш таленавітых наследнікаў і прадаўжальнікаў дэмакратычных і гуманістычных традыцый рускай літаратуры крытычнага рэалізму. Той факт, што любімымі пісьменнікамі Купрына былі веліканы рускай літаратуры — Пушкін, Талстой і Чэхаў, у дастатковай меры тлумачыць яго літаратурныя густы і схільнасці. На эстэтычныя погляды Купрына рашаючае ўздзеянне аказала рэалістычная эстэтыка рэвалюцыйных дэмакратаў.

Мастацкая творчасць Купрына прынцыпова супрацьстаяла дэкадэнцкаму мастацтву.

Натуральна таму, што, калі рускія дэкадэнты выступілі з жорсткімі нападкамі на адвечныя традыцыі рэалізму і загаварылі аб яго «састарэласці» і крызісе, аб неабходнасці замены яго «новымі», г. зн. неарэалістычнымі формамі творчасці і г. д., Купрын асудзіў нігілізм тэарэтыкаў і практыкаў мадэрнізму ў адносінах рускай класікі і падверг рэзкай крытыцы іх прэтэнзію выдаваць сябе за першаадкрывальнікаў і творцаў «новага мастацтва».

Купрын, праўда, не напісаў па гэтым пытанні спецыяльнай працы, падобнай, скажам, на талстоўскі трактат «Што такое мастацтва», які з'явіўся на зыходзе старога стагоддзя (1898); ён не браў на сябе задачы даследаваць сацыяльныя карэнні дэкадансу як спецыфічна буржуазнай з'явы ў эпоху загнівання капіталізму, не спрабаваў падрабязна высветліць ідэалагічную сутнасць і прычыны ўзрастаўшай папулярнасці мадэрнісцкіх плыняў у нас і за рубяжом, як гэта рабіў тады ж М. Горкі ў вядомым артыкуле «Поль Верлен і дэкадэнты» і ў радзе іншых сваіх артыкулаў. Крытыка Купрыным сучаснай яму мадэрнісцкай творчасці змяшчался, перш за ўсё, ва ўласных мастацкіх яго творах таго часу.

Услед за Чэхавым, які ў «Чайцы» дасціпна парадзіраваў «філасофскую» лухту і «наватарства» дэкадэнтаў у галіне формы, Купрын не раз звяртаўся да стварэння парадыйна-сатырычных вобразаў паэтаў і жывапісцаў мадэрнісцкага толку. Так, у нарысе «Мастак» (1896) з едкай іроніяй паказаны тыповы мадэрніст ад жывапісу, які вельмі «смела» «звяргае» рэалістычнае мастацтва як безнадзейна архаічнае, бясплоднае, што даўно зжыло сябе. Ён гатовы адным махам перакрэсліць усё тое, што было створана раней і што ствараецца цяпер вялікімі майстрамі пэндзля — ад Рафаэля да Шышкіна, заклікае адмовіцца ад прынцыпу жыццёвай праўды, які з'яўляецца асноўным у рэалізме.

Апалагет «новага» мастацтва вы-

# «ЦАРУ ЎЕЗД ЗАБАРОНЕНЫ»

Кароткаметражная дакументальная кінакарціна пад такой назвай расказвае аб адным з этапаў барацьбы У. І. Леніна за салідарызацыю еўрапейскага пралетарыята. Яе выпусцілі кінематаграфісты творчага аб'яднання «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм». У стужцы, створанай рэжысёрам В. Дзвінскім па сцэнарыі, напісаным ім у садружнасці з Е. Жукавай, узноўлены падзеі, звязаныя са зрывам у 1909 годзе паездкі рускага цара ў сталіцы еўрапейскіх дзяржаў.

...Царызму ўдалося задушыць першую рускую рэвалюцыю. Саноўнікі за стральбу ў рабочых і сялян атрымалі новыя ордэны. Рэакцыя святкавала перамогу. Тысячы людзей былі пакараны, адпраўлены ў турмы і на катаргу. Самадзержац усерасійскі спяшаўся развеяцца паездкай у Заходнюю Еўропу.

Цэнтрам рускай сацыял-дэмакратыі ў той час стаў Парыж. Сюды пераехаў з Жэневы і У. І. Ленін. Даведаўшыся з газет, аб паездцы цара, Уладзімір Ільіч разгарнуў пікучую дзейнасць, каб перагарадзіць дарогу ў еўрапейскія краіны душыцелю свабоды ў Расіі. Ён звярнуўся ў выканком Міжнароднага сацыялістычнага бюро з просьбай заклікаць рабочых да пратэсту супраць царскай паездкі. Бюро выпусціла адозву, у якой заклікала ўсіх рабочых Еўропы пратэставаць супраць маючага адбыцца візіту цара. У Францыі і Англіі пракацілася хваля мітынгаў і дэманстрацый, сацыялістычныя і рабочыя фракцыі парламентаў звярталіся з запытамі да ўрадаў. Актыўныя выступленні пралетарыята перашкодзілі рускаму самадзержцу з'явіцца ў сталіцах еўрапейскіх дзяржаў і фактычна сарвалі паездку.

БЕЛТА.

Ф. КУЛЯШОЎ

# ДЭКАДАНС ПЕРАД СУДОМ МАСТАКА



Да 100-годдзя з дня нараджэння А. І. Купрына

глядае ў мастацкай інтэрпрэтацыі Купрына або фігурай камічнай, або проста хворай істотай. Гэта — чалавек згасаючых жыццёвых і творчых сіл, духоўны імпатэнт, надзелены непамернай ганарлівасцю, або мастак з талентам, але з яўна надломленай псіхікай. Адну з гэтых разнавіднасцей мадэрністаў уяўляе, напрыклад, скульптар з апавядання «Псіхея». Смешны герой камедыі «Грань стагоддзя» (1899—1900) — безыменны паэт-сімваліст, эксцэнтрычны і бяздарны, які бойка сачыняе пазбаўленыя сэнсу строфы, што, па яго сцвярджэнні, і ёсць «новы від» вершаванай творчасці: «гэта паэзія, якую можна чытаць і спераду назад і ззаду наперад з аднолькавым каласальным поспехам!» Варыяцыю падобных персанажаў знойдзем у некаторых больш позніх творах Купрына перадкастрычніцкай эпохі, напрыклад, у апавяданнях «Тараканава шчыліна», «Пакутнік моды» і інш.

Рэзкімі выпадамі супраць дэкадансу багаты артыкулы Купрына па пытаннях літаратуры, яго ўспаміны аб Чэхаве і Талстым, рэцэнзіі на кнігі сучасных пісьменнікаў, а таксама лекцыі і газетныя інтэрв'ю. У іх Купрын асуджае той разброд у літаратуры, які рэзка ўзмацніўся пасля смерці Чэхава і стаў амаль звычайнай з'явай у мастацтве эпохі сталыпінскай рэакцыі.

Маючы на ўвазе творчасць літаратараў з лагера мадэрнізму, якія асабліва актывізаваліся пасля паражэння першай рэвалюцыі, Купрын заяўляў: «Сучасныя пісьменнікі робяць не тое і не так, як трэба». Дэкадэнты-мадэрністы не ведаюць ні жыцця, ні людзей—яны «мала перажываюць, нічога не бачаць». Заблуджэнне і памылка раду нават таленавітых сучасных пісьменнікаў-мадэрністаў і ў тым, што «форма ў іх зусім засланяе змест». Адны з іх упадаюць у эстэцтва, другія — у натуралізм і парнаграфію. Іх творчасць наскрозь фармалістычная, ад іх прыгожай пісаніны павявае холадам, на іх ляжыць пячатка надуманасці.

Небяспеку і шкоду дэкадансу Купрын справядліва бачыў у самаізаляцыі, адчужанасці гэтага мастацтва ад жыцця грамадства, у падкрэсленай абыякавасці мадэрністаў да інтарэсаў і патрэб народа, у іх раўнадушшы да вызваленчага руху і пагардзе да перадавых ідэй веку, у адмаўленні ад ідэалаў гуманізму і імкненні ўсяляк прынізіць і развянчаць чалавека, у крайнім індывідуалізме, містыцы і песімістычным поглядзе на рэчаіснасць.

Купрын адвяргаў тое ўсвоенае дэкадэнтамі правіла буржуазна-ідэалістычнай эстэтыкі, згодна з якім мастацкая творчасць па сваёй прыродзе таямніча-містычная і што мастацтва было і застаецца арганічна звязаным з рэлігіяй. Ідэя рэлігіі, паводле яго слоў, даўно страціла «таямнічую прыгажосць» і, па сутнасці, перастала пастаўляць мастацтву сюжэты, матывы і вобразы. «Рэлігія — выдумка, мастацтва — жыццё». Так Купрын сфармуляваў сваю думку ў 1908 годзе.

Мастацтва, мастак і грамадства павінны быць непадзельныя. Сапраўднае мастацтва ідзе сваімі карэннямі ў рэчаіснасць, у сацыяльнае быццё, псіхалогію і паўсядзённы побыт чалавека.

Але для дэкадэнтаў даўно перастала быць важным, аб чым і ў імя чаго пісаць, галоўнае для іх — як пісаць. Іх мастацтва варожае ідэям дэмакратычных свабод і рэвалюцыі, яно пазбаўлена агульназначнай мэты і накіраванасці ў будучыню, у ім адсутнічаюць сацыяльныя ідэалы, няма ў ім таго «ўнутранага ззяння», якім «свяцілася ўся руская літаратура, пачынаючы з Пушкіна». Не новы, але паранейшаму жывучы лозунг «мастацтва для мастацтва» Купрын называў недарэчным.

Будучы ў эміграцыі, ён у пісьме да І. Рэпіна (ад 8 жніўня 1927 г.) едка высмейваў «маладых лахматых дадаістаў, футурыстаў, кубістаў, нічавокаў, бубновых валетаў і асліных хвастоў» за тое, што яны нахабна і беспардонна пазбаўляюць мастацтва праўды, прыгажосці і дабра, культывуюць эстэтыку агіднасці. Аб выстаўцы «новага мастацтва» ў Парыжы, якую яму давялося наведаць улетку 1926 года, Купрын пісаў таму ж адрасату з вялікім засмучэннем і болю: «Такая туга, такая непісьменнасць, такое ўбоства на выстаўцы! Мяркуючы па ёй, можна сказаць, што свет напоўнены выключна вылюдкамі, якія жывуць у агідных пакоях і дамах і бачаць з вокнаў агідныя кветкі, пейзажы і агідных жывёлін». Аналагічныя меркаванні знаходзім у радзе іншых купрынскіх пісем з-за мяжы.

Купрын не адмаўляў неабходнасці абнаўлення «старога» рэалізму. Кананізацыя якіх бы то ні было мастацкіх форм у мастацтве, абсалютызацыя стылю і апавядальных прыёмаў, выпрацаваных, скажам, класікамі, пагражалі б застоем у развіцці літаратуры, маглі б прывесці да будзённасці рэалізму, да перараджэння яго ў натуралізм, да эпігонства ў творчасці. Такая літаратура, панылая і сумная ў сваёй аднастайнасці, залішне прыземленая і пазбаўленая рысаў самабытнасці і арыгінальнасці, натуральна, «пачынае стамляць чытача».

Імкліва рухаецца наперад жыццё, мяняецца яго змест, накіраванасць і формы, і мастак, калі ён не хоча адстаць ад запатрабаванняў і бегу часу, міжволі шукае і новыя мастацкія сродкі для ўвасаблення «вобраза эпохі», для перадачы «колеру часу», твару жыцця. Гэта—не толькі яго права, але і яго абавязак.

Мадэрністы ў гэтым сэнсе валодалі адной «цудоўнай рысай — смеласцю і дзярзаннем». Купрын, які ўважліва сачыў за літаратурным працэсам XX стагоддзя, прызнаваў несумненныя заслугі найбольш таленавітых прадстаўнікоў мадэрнізму ва ўдасканаленні імі вершаванай тэхнікі, у наданні паэтычнай мове гранічнай гнуткасці і гучнасці. Праўда, «радавы» мадэрніст, ахоплены страсцю эксперыментатарства ў галіне вершатворчасці і мовы дзеля самога эксперыменту, нестолькі ўзбагачае гэтым рускую мову, колькі псуе яе, бо бязлітасна скажае мову, без патрэбы афранцужвае яе. Тут застаецца адно суцяшэнне: «Як ні будуць крышыць рускую мову паны мадэрністы,—яна ніколі не страціць сваёй сілы і прыгажосці».

У ацэнцы творчасці паэтаў і празаікаў з варожага яму дэкадэнцкага лагера Купрын праяўляў вялікі такт, неабходную аб'ектыўнасць і, калі хочаце, беражлівасць. Сярод сімвалістаў, напрыклад, ён нязменна высока ставіў Брусава, Бальмонта і Блока, прызнаючы іх велізарны талент і тое высокае слоўна-паэтычнае майстэрства, якім валодаў кожны з іх, але аб сімвалічнай творчасці Белага, містычнай і экстатычнай, Купрын гаварыў адмоўна, абвінавачваючы Белага ў надуманасці і наўмыснай туманнасці яго вобразаў. Паводле слоў Купрына, вялікай увагі заслугоўваюць С. Гарадзецкі і М. Кузмін, якія тады толькі ўваходзілі ў паэзію і стаялі, побач з М. Гумілёвым і А. Ахматавай, ля калыскі акмеізму.

Часта Купрын пісаў і гаварыў пра Леаніда Андрэева перыяду рэакцыі як пра пісьменніка супярэчлівага, складанага, няроўнага. З надуманай сімволікай андрэеўскіх вобразаў ён не хацеў прымірыцца, але калі ў пачатку дзесятых гадоў у творчасці гэтага пісьменніка зноў запанавалі рэалістычныя элементы, Купрын з радасцю адзначыў, што Андрэеў у сваіх апошніх творах «пераходзіць ад сімвалізму да самага сапраўднага рэалізму».

Так у Купрына было заўсёды: найменшую прыкмету павароту да рэалізму, які выявіўся ў творчасці любога мастака, у той ці іншай меры звязанага з дэкадэнствам, ён зараз жа вітаў з уласцівай яму шчырасцю.

Купрын глыбока верыў у вялікую будучыню рэалістычнай літаратуры, у непазбежнасць яе заўтрашняга росквіту. Ён быў перакананы: «Ні рэакцыя, ні дэкадэнты, ні сімвалісты новай фармацыі, ні гарадавыя — ніхто не можа загубіць яе, перашкодзіць яе росквіту».

Для Купрына будучае рускай літаратуры —не з дэкадэнтамі, не з мадэрнізмам. Толькі літаратура, заснаваная на прынцыпах рэалізму, у стане вылучыць у недалёкім будучым «пісьменнікаў, аб якіх стане гаварыць увесь свет».

[Заканчэнне. Пачатак на 6—7 стар.]

# НЯМТУР

Нямтуру ўжо было мора па калена. Ішоў ён прама, не абыходзячы нават вялікіх лужын, не зважаючы на дождж, на ўзрывісты кругавы вецер. Забыўся Нямтур, што побач з ім, як бы ён добра ні гаварыў, усё ж злодзей. Усё роўна стала яму, што будзе рабіцца на калгаснай сядзібе да раніцы. Ён думаў пра Марфу. Ай жа крыўдаваў, злаваўся на яе ў душы.

Столькі год пасабляў ёй усім усякім: хітрыкамі, каб не ведала Алеся, з гаспадаркі браў...

Хто іх там лічыць, колькі Нямтур, бывала, за вепрука ці авечку выручыць. А хочацца ж у Яснаўку заглянуць! Дык ён з рынка вясло баранкаў, гарнітурчык які, шапачку, чаравікі вязе малому. Марфе калі хустку ці хоць сітцу на сукенку купіць... А тады ўжо, каб неяк спісаць расходы, надвячоркам цераз лес брыдзе да вёскі. П'яным прытворыцца — на нагах не стаіць. Блытаецца па вуліцы ад плоту да плоту. Перад Алесяй ну проста нямее чалавек. Ад той чвэрткі, што з Марфай раздзяліў, духу ўжо няма, — але мармыча сабе пад нос нешта неўразумелае, размахвае кулакамі — не падыходзь...

Павесіць пінжак на сцяну і глядзіць адным вокам з-пад коўдры, як Алеся, нагаварыўшы бочку арыштантаў, шарыць па кішэнях, выграбае ўсё да капейкі.

Назаўтра непрыступная стаіць Алеся пры печы, бліны выпякае. Нямтур выварочвае кішэні ў пінжаку, лаецца нават на некага, дзеля прылікy, вядома.

— Алеся, гэта я ў шэрым пінжаку ездзіў у Мінск? — пытаецца з-за дзвярэй.

— А ў якім жа?.. Напіўся, не помніш.

— Выпіў, чорт яго... А грошай ты тут не брала?

— Бачыла я твае грошы. Выцягнуў нехта ў п'янага. — І далей зусім без злосці: — Трэба так у горадзе напівацца?

— Многа там выпіў галодны, думаеш?

— Казала ж, каўбасу абвару. Было браць.

— Чорт яе, з каўбасою. Палезе яна сухая.

І ўжо тыдзень які, да першай пакупкі, не абзываюцца пра грошы. Суботаю, бывае, Нямтур у лазню ўзахвоціцца схадзіць. Не парыцца — духаты ён не пераносіць. Пашмаравацца трохі мачалкаю. Ды выпіць пасля з людзьмі. Але ж на гэта трэба грошы... Сабярэ Алеся ў сумку бялізну, ручнік, мыла. Сама выбягае хутчэй на кухню, каб не рассмяяцца, пазіраючы, як Нямтур стаіць каля акна, нечага мыляе губамі. Ну, думаецца жонцы, няхай папасмягне па грашах, няхай папакутвае. Не будзе больш піць у дарозе. Дзе ж ёй даўмецца, што нудзіцца Нямтур па Марфе, мазгуе, як бы махнуць хоць на хвілінку ў Яснаўку, Валік Аўдульчын, канечне, можа на край свету завезці, але ж яму дай паўлітра...

Абрыдзе Алесі чакаць яго, пацяшацца — расчыняе дзверы ў залу, моцна рагоча, аж за жывот бярэцца.

— Выпіў у Мінску, дык з трасцаю ідзі ў лазню.

— Чорт яе, з лазняй гэтай. Было б за што сварыцца. Не пайду!

— Тры рублі, думаю, хопіць?

— Дзе ж яны, тыя рублі?

— У верхняй кніжцы на этажэрцы паглядзі. І не адпівай мазгоў. З трасцай будзеш хадзіць у лазню.

— Якая ж ты. Алеся, нотная ў мяне! — засмяецца Нямтур. — Каб ніколі больш не лазіла па кішэнях. Рукі адаб'ю, як злаўлю. Пабачыш...

Яны выйшлі на вуліцу, спыніліся. Глядзяць адзін другому ў вочы. Бы забыліся, куды і чаго ідуць.

— Чорт цябе ведае, як з табою быць, — першы адумаўся, загаварыў Нямтур. — Валік Аўдульчын морду наб'е...

— Вам лягчэй стане.

— Будзеш мне яшчэ: лягчэй, цяжэй!

— Адпусціце...

— Зноў пойдзеш заводзіць машыну?

— А дзе ж мне дзецца?

— Знаёмых няма?

— Калі б былі знаёмыя...

— А як ты тут апынуўся, чорт на цябе?

— Апынуўся... Папрасіла дзяўчына правесці праз лес...

— Не магла ў хату завесці, чорт вас.

— Маці баіцца.

— Маці ўжо там, чорт на яе... Пойдзем да мяне... Баба што буркне — маўчы. Пра машыну ні слова. А заўтра падскочым у Яснаўку. З тваімі бацькамі пагавару. Замалада ты разбасячыўся...

Дзверы ў сенцы былі на завале, Алёна, значыць, дамоў сыскалася. Нямтура гэта ўзрадавала на момант і засмуціла. Якую ж прычыну прыдумаць заўтра, каб адлучыцца ў Ясноўку? Аж злосць нейкая ўзгарэлася на дачку. Яму, маўляў, хоць прападзі на калгасным дварэ — ёй галава не баліць. Каб гуляць — адно ведае. Стой на ганку, як сабака.

І Нямтур моцна, аж сцены дрыжэлі, замалаціў кулакамі ў дзверы.

— Чую ўжо, грыміш, — сказала Алеся грубавата, як спрасоння, злосна. — Трасца не возьме.

— Гадзіну трэба стаяць! — крыкнуў Нямтур.

Яна зняла з крукоў бярозавую завалу, кінула яе ў кут, сцепануўшыся, вярнулася на кухню. Следам зайшоў Нямтур з хлапцом.

Алеся аж рукі развяла ад нечаканага госця.

— Знайшоў ужо хэўру.

— Суцішся... Трэба ж дзе чалавеку пераспаць. Дождж не сунімаецца.

— Я пайду, — збянтэжыўся, адступіўся да парога, вялікімі вачыма глядзіць незнаёмец на сіні Алёнін балонавы плашч — увесь у кропельках расы. — Адпусціце...

— Леснікі гадаслалі? — хітравата зірнула Алеся на мужа.

— Дай чалавеку сто грам, калі ёсць, сагрэцца... Алёну прывёў з Яснаўкі.

— Адна яна там была?

— Адна... На куце з маладымі сядзела, — пасмялеў начны госць.

— А ў каго ж там вяселле было, пачакайце?

— У Марфы Банадысёвай, — сказаў хлопец.

Алеся разгубілася, расчырванелася. Зіркае то хлопцу, то Нямтуру ў вочы — як не заплача.

— Дык сам яго тут частуй, халера насатая,— сказала яна праз слёзы і шмыгнула за дзверы.— Прынеслі мне радасць...

Мужчыны не многа пілі, не доўга закусвалі.

Нямтур парыўся нечага ў запечку, апрануў шэры пінжак пад плашч, кіўнуў галавою хлопцу на выхад.

Вецер быццам паслабеў. Адкацілася за лес грымота, хоць бліскавіцы мігалі часта, як з вечара, на ўсё неба. Дробны сыпаў дождж. Святлела на ўсходзе. Свежасцю, прахалодай дыхала лістота, сама зямля.

Набліжаўся, цямнеў з кожным крокам шумлівы лес наперадзе.

**9 верасня — нацыянальнае свята балгарскага народа, Дзень свабоды**

# І ПАД ЗОРКАМІ БАЛКАНСКІМІ...

**Адзін мой беларускі сябар, які вызваляў нашу зямлю разам з Савецкай Арміяй, неяк успамінаў пры мне: «Прыгожая, вельмі прыгожая ваша Балгарыя... І якая бедная яна была ў той час!» Гэта была шчырая праўда пра вераснёўскую Балгарыю 1944 года. З таго часу прайшло ўжо 26 гадоў нашай рэвалюцыі. Не злічыць, ніякімі мерамі не вымераць усе яе заваёвы і дасягненні. «Ёсць у рэвалюцыі пачатак, ды няма ў рэвалюцыі канца!». І з кожным годам рэвалюцыя загадвае нам дабівацца ўсё новых і новых перамог, радавацца яе заваёвам, заставацца аднагодкамі рэвалюцыі—вечна маладымі і няўрымслівымі, здольнымі дзярзаць і дабівацца ўсё новых вяршынь, гарэць і не згараць у бурлівым полымі велічных турбот.**

**І змагацца, быць змагарамі. Ёсць яшчэ з чым змагацца: ці не вораг рэвалюцыі нумар адзін мяшчанскі эгаізм і вузкалобы індывідуалізм. Іх сутнасць цяжка часам выявіць за пустымі слававывяржэннямі, але пазнаць можна: ім не хочацца больш ствараць, ім хочацца толькі спажываць.**

**Нашай рэвалюцыі толькі крыху больш чвэрткі веку. Але гэтая чвэртка прынесла краіне і народу больш, чым многія папярэднія стагоддзі. Сёння мой беларускі сябар сказаў бы: «Якая прыгожая, якая багатая Балгарыя!» Але ні ён, ніхто з нас не можа сказаць—самая прыгожая і самая багатая. Бо рэвалюцыя наша бачыць новыя далягляды, бо шлях яе ў нязведанае і велічнае бясконцы. Сацыялістычная рэвалюцыя стала сімвалам братэрства балгарскага і беларускага народаў. Лёс нашых народаў мае так многа агульнага, многа падобнага ў паслярэвалюцыйным развіцці!**

**Услухайцеся, дарагія сябры, у гучанне чаканных радкоў вершаў балгарскіх паэтаў. У іх і напал, і рытмы нашай рэвалюцыі, у іх яе вечна юная душа.**

Сафія.

**Георгій ВЫЛЧАЎ.**

Любамір ЛЕЎЧАЎ

## КАСТРЫЧНІЦКІ ВЕРШ

Кастрычніцкі трывожны дождж,
што б'ешся ў вокны?
Што ты студзіш?
Нашто ўначы—прызнайся, дождж,—
мяне ты будзіш?.

Ты, можа, хочаш мне напомніць
пра будапешцкія кастры
або пра Ўсход, крывёй абмыты,
дзе тысячы застылых дзюн —
для тысяч паўшых
пірамід?..

Я чую поступ грозных дзён,
што рвуць на шмоцце павуціну
інтэлігенцкіх нерваў-струн.
Зямля крывёю зноў набухла,
І гарызонт гарыць наўсцяж.
І зноў мы ў грозным наступленні.

І мне патрэбен сёння сцяг!
І мне патрэбен сёння Ленін!
А з песень—трэба мне найперш:
«Паўстань, праклецем катаваны!» —
каб сказ мой быў, як меч каваны,
каб верным быў мой гнеўны верш!

І калі грымне ў высях гром —
мне бліскавіца з чорнай хмары
пакажа вогненным пярстом,
дзе вораг мой, а дзе—таварыш...

Такою ноччу-крутаверцю,
з выццём сірэн, з агнём
і смерцю, —
вялікі лёс—мужчынам быць.
Ім трудна быць у бездарож.
Без бітвы воінам не будзеш.
Кастрычніцкі трывожны дождж,
я дзякую табе, што будзіш!

Дзімітр МЕТОДЗІЕЎ

Сам знаю пра бяду. А ты — прымоўчы:
не падабаюцца тваё мне вочы...

Мне камунізм—лёс мой неадлучны:
усё, чым жыў і буду жыць да скону.

А для цябе—турысцкі ранец зручны,
або — кашуля модная з нейлону:
запэцкалася — скінь, і ўся бяда.
Балець не будзе. Дробязь. Не шкада.

А я душу не вырву, калі б нават
яе агнём пякельным апаліла,
або на раны ўсю нашчэнт пабіла,
або ўтапталі ў багну, каб сканала...

О, знаю, для цябе і гэта—фраза.
Адна з тваіх... Таму і ненавіджу.
Таму і позірк ледзянее зразу.
Таму й маўчы! Фальшывых слоў даволі!
Сядзі сабе ў застоллі паміж нас.
Над горам нашым смейся ў горкі час.
Але не смей мне «спачуваць» ніколі!

Хрыста РАДЗЕЎСКІ

## БЯССМЕРЦЕ

Цяжкі і незайздросны лёс паэтаў,
дзе лямант гвалту чуцен дзень пры дні,
дзе крыўдзяць слабых, дзе само паветра
атручана мікробамі хлусні,

дзе мас мільённых апантаны геній
не павярнуў яшчэ быцця рычаг...
Ды што для муз пагрозы і ганені?
Бунтуюць музы: «Не магу маўчаць!»

Гады іх судзяць і да сценкі ставяць,
ці робяць з іх да смерці жабракоў.
А час пазней няправы суд паправіць
і назвівае кожнаму вянкоў.

Урок стагоддзяў вынікае ясна —
яго́ны сэнс няцяжка зразумець:
паэтаў часта ў дол кладуць заўчасна,
але паэзію не закранае смерць.

Павел МАЦЕЎ

●

І як прыйдзецца, сцішыўшы страсці,
легчы ў дол між вячыстых дубоў —
я вазьму на ўспамін і на шчасце
неспакойнае слова Любоў.

Мілы вобраз вазьму назаўсёды:
дзве заранкі ў вялікіх вачах —
дзве паэмы, дзве светлыя оды,
каб маглі тваім імем гучаць.

Мора Чорнае—каб калыхала,
чайку — каб нада мною плыла,
сцежку ў полі фракійскім, каб звала
і да хаты бацькоўскай вяла.

Вечаровую, сумную зорку,
трапятлівай Марыцы луку,
цень сасны адзінокай на ўзгорку,
звон сцюдзёнай крыніцы ў ляску.

Белы ліст—каб працяты самотай
дапісаць недапісаны верш.
А яшчэ — дзве слязіны, што ўпотай
ты на ростані горкай пральеш.

Дзімітр СТЭФАНАЎ

## У ТРЫЦЦАЦЬ ТРЫ ГАДЫ

У трыццаць тры гады,
на паўдарозе
(сярэдні ўзрост героеў-касманаўтаў
і ўзрост Хрыста, між іншым),
я расстаюся з палавінаю свайго
жыцця.

У трыццаць тры гады,
выдатнік колішні па арыфметыцы,
я зразумеў галоўнае,
што рухае
наш век наперад —
Век ідэй, ракет,
машын кібернетычных і шаблонаў,
пластмасаў і прамоў.
Галоўнае: на два дзяленне.

Цяпер усё падзелена ў жыцці:
прырода ўся—на поўнач і на поўдзень,
а свет увесь — на Захад і на Ўсход.

Свет дзеліцца
на ворагаў і на сяброў,
сябры — на сённяшніх і на ўчарашніх,
дзеліцца атамы, г. зн. непадзельныя,
на вадародныя грыбы
і на электрастанцыі,
нават шторы дзеліцца
на цюлевыя
(гэткія мы купім)
і на жалезныя.

Калі ты ляжаш побач —
я аддзелены
вачэй зялёных таямнічым бляскам
ад другіх жанчын.

А вось ступае радасна да нас
(учора навучылася хадзіць!)
дачушка наша,
ручкі растапырыўшы,
як знак складання.

Але яна—наступны век.
Праз трыццаць тры гады.

З балгарскай мовы пераклаў Ніл Гілевіч.

**А**ДСУТНАСЦЬ аб'ектыўнай інфармацыі ўводзіць у зман не менш, чым дэзінфармацыя. Прыемна бачыць, што савецкі чытач усё ў большай ступені знаёміцца з сучаснай сусветнай літаратурай. Зразумела, у справе перакладу яшчэ нямала цяжкасцей, сам выбар твораў бывае абмежаваны і часта аднастайны. Але тое, што ўжо робіцца, дазваляе самастойна меркаваць аб зарубежным літаратурным жыцці і тым самым больш канкрэтна і, значыць, больш актыўна рэагаваць на нападкі нашых ідэйных праціўнікаў, знаходзіць сяброў і аднадумцаў.

Параўнанне модных за рубяжом кніг з лепшымі кнігамі, створанымі савецкімі літаратарамі, выяўляе нямала цікавага і павучальнага, выкрывае міфы, прадузятасці, пацвярджае пэўныя заканамернасці.

Перш за ўсё, параўнанне выяўляе міжнародную вагу сучаснай савецкай літаратуры, у якой ёсць чаму павучыцца нават літаратурам, якія абапіраюцца на багатую спадчыну. У той жа час параўнанне як нельга лепш выкрывае недахопы і памылкі асобных савецкіх літаратараў, наглядна паказваючы ўбогасць простага перайманя, модніча́ння самамэтнай арыгінальнасці. Любыя пошукі і эксперыменты адыходзяць, застаюцца толькі адкрыцці, якія не парываюць з класічным мінулым, але заканамерна вырастаюць на яго глебе.

Параўнанне паказвае, што найбольш значны поспех выпадае на долю тых, хто не імкнецца патрапіць густу буржуазнай публікі, спекулюючы на парнаграфіі і сексе, модзе і экстравагантнасці, але мужна і самааддана служыць сапраўднаму мастацтву. Якія б ні выдумваліся «ізмы», сапраўдны талент заўсёды сягае за межы догм, не ігнаруе дасягненні тых, хто стварыў шэдэўры, якімі ганарыцца ўсё чалавецтва. Якімі б самабытнымі і складанымі шляхамі ні ішлі мастакі, побач з Фолкнерам мы абавязкова заўважым Л. Талстога, побач з М. Прустам, А. Камю або Д. Апдайкам — Дастаеўскага, карацей кажучы, прасочым велічную сувязь чалавечага духу, які пераўтварае жыццё.

Параўнанне паказвае, што сусветная культура, аб якой неаднаразова гаварыў У. І. Ленін, — не фікцыя, не выдумка, не хімера, а рэальна існуючая скарбніца чалавечага вопыту, у якую сацыялістычная літаратура, якая адлюстроўвае практыку сацыялістычнага ўкладу жыцця, уносіць вельмі істотны ўклад. Сусветная культура, дыханне якой адчуваецца ў лепшых творах заходняй літаратуры, указвае на гістарычныя заканамернасці развіцця цывілізацыі, вышэйшым дасягненнем якой прызнана тэорыя і практыка камунізма, камуністычны гуманізм. Той аб'ядноўваючы гуманізм, патрабаваннем якога прасякнута паветра ўсёй планеты — не наіўнае ўзвелічэнне любой чалавечай асобы, не блізарукае праслаўленне яе як апагея разумнасці, дабрадзейнасці і крытэрыя ўсіх ісцін, а цвярозае разуменне ўзаемнай залежнасці, у якой аказаліся народы ў выніку канкрэтнага гістарычнага развіцця, адкрыццё простай і вялікай ісціны, што чалавецтва можа працягваць сваё касмічнае існаванне толькі як адзінае цэлае.

Зразумела, гэты гуманізм не вырашае супярэчнасцей паміж грамадскімі сістэмамі. Барацьба застаецца, можа, усё больш шырокая і складаная, усё больш абвостраная.

Параўнанне паказвае, што модная ў заходняй літаратуры манера халоднай рэфлексіі, для якой няма ідэалаў і няма святынь, пачынае безнадзейна старэць. Паўсюдна адчуваецца недахоп сардэчнасці і цеплыні, недахоп станоўчай мадэлі існавання, адсутнасць жыццёвага ідэалу.

Эпоха не спрыяла радасным эмоцыям: фашызм з яго агіднымі метастазамі ў грамадствах, якія некалі пахваляліся сваім дэмакратызмам, другая сусветная вайна з яе мноствам ахвяр, страшэнны духоўны тупік імперый капіталу, які адасобіў не толькі чалавека ад чалавека, але і чалавека ад асяроддзя, супрацьпаставіў асобе логіку звышжывёльнага эгаізму, — усё гэта аднача́сова заахвочвала да дабраты і чуласці ў міжчалавечых кантактах і, значыць, адбілася на адносінах літаратуры да сваіх герояў.

Эдуард СКОБЕЛЕЎ

# ПІСЬМЕННІЦКАЕ КРЭДА І МАЙСТЭРСТВА МАСТАКА

**Роздум аб літаратурным працэсе на Захадзе**

І вось цяпер з усёй відавочнасцю выявілася, што «разбурэнне» ў літаратуры, якое не суправаджаецца стварэннем, выклікае крызіс, які асудзіў многіх таленавітых аўтараў на сумнае паўтарэнне пройдзенага, у якія б прыгожыя формы яно ні было заключана. Нават «Кентаўр» упамянёнага ўжо Джона Апдайка, калі быць даволі паслядоўным, уяўляе не больш, чым геніяльную імправізацыю некалькіх старонак «Братоў Карамазавых»...

Зразумела, лепшыя прадстаўнікі зарубежнай літаратуры даўно адчулі неканструктыўнасць метаду «трупных сячэнняў», як назваў нехта з савецкіх літаратуразнаўцаў абыякавыя корпанні ў паталагічнай псіхіцы. Але буржуазная рэчаіснасць проста-такі глушыць клапатлівае, любоўнае стаўленне да асобы; аўтары такіх твораў прадстаюць дзівакамі-фантазёрамі, адарванымі ад клопатаў і патрэб суровай паўсядзённасці. Узнік амаль невырашальны канфлікт паміж пазітыўнымі патрабаваннямі розуму і магчымасцямі іх рэалізацыі. Тут сутнасць драматычнага становішча заходняй літаратуры, аснова крызісу, што скіраваны ў сэрца мастацтва: у яго гуманізм і рэвалюцыйнасць.

Вельмі сімптаматычны фенамен шумнага поспеху ў апошні час кніг, у якіх так або інакш узнімаецца «даўно вырашанае пытанне» аб сэнсе жыцця, аб цане чалавечай асобы.

У рамане «Сям'я Эглецьер» вядомага французскага пісьменніка А. Труайя праблема ставіцца ледзь не ў класічным духу, з грунтоўнасцю «традыцыйнага рамана». Але аўтар не адкрывае нічога новага, робячы «геалагічны» зрэз сучаснага буржуазнага грамадства; выяўляючы ролю і значэнне ўсіх напластаванняў, ён сумна канстатуе: там, дзе пануе хлусня і эгаізм, не можа быць рэцэпта агульнага выратавання. Канчаецца раман, а ў герояў працягвае «спець агіда да жыцця, а з ёй і страх перад будучыняй».

З пункту гледжання каштоўнасці асобы і значнасці яе дзейнасці несумненную цікавасць уяўляе аповесць Жан-Поля Сартра «Словы». Гэта звычайны для масцітага літаратара сінтэз дасціпнасці, эрудыцыі і мудрага жыццёвага вопыту. Але было б дарэмным заняткам шукаць у аповесці станоўчую праграму — яе там няма, а некалькі абагульняючых сентэнцый напоўнены сумненнямі і сумнай іроніяй.

Можа, менавіта з-за адсутнасці выразных альтэрнатыў паўжывёльнаму буржуазнаму існаванню, Сартр аддаецца своеасаблівай гульні ў словы і думкі. Атрымліваецца нешта накшталт канцэрта віртуоза, праграма якога напалову складаецца з абстрактнай, «матэматычнай» музыкі. Трапіўшы ў сілкі «чыстай» псіхалогіі і абстрактных разважанняў, аўтар спатыкаецца на роўным месцы. Тады і з'яўляюцца «адкрыцці» накшталт: «загадваць і падначальвацца — гэта, па сутнасці, адно і тое ж».

Кніга выходзіць далёка за рамкі аўтабіяграфічнай аповесці. Застаецца сумным фактам: паказваючы дзяцінства, Сартр спрабуе апраўдаць і растлумачыць лёс дарослага.

Спроба пранікнуць у дзіцячую псіхалогію заўсёды пахвальная, — у выпадку ўдачы чытачу адкрываецца далёкі і цудоўны свет, у якім ён жыве, свет поўны простай, але сапраўднай зямной мудрасці. Але Сартр не ўзнаўляе дзяцінства, ён канстатуе яго па рацыянальных схемах дарослага інжынера, выказваючы пры гэтым многа цікавага, але зусім забіваючы спекуляцыямі жывую асобу. Вобраз маленькага Сартра не атрымаўся, ён застаўся схемай, зменшанай праекцыяй дарослага, задушанага сумненнямі. Ці не дзіўна пасля гэтага, што пісьменнік адмаўляе ў абсалютным значэнні любую дабрачыннасць: «Дарэмна я ўкладваю ўсяго сябе ва ўсё, што задумваю, цалкам аддаюся рабоце, гневу, дружбе — праз хвіліну я выракуся сябе, мне гэта вядома, я хачу гэтага і, радасна прадугадваючы здраду, прадаю ўжо сябе ў самы разгар захаплення».

Інакш ставіцца праблема сэнсу чалавечых намаганняў у рамане «Залатыя плады» Наталі Сарот. Гэта тыповы прыклад так званага «новага рамана» са своеасаблівай кампазіцыяй, дзе няма кананічнага бытаапісання і колькасных характарыстык персанажаў.

Нягледзячы на шуміху вакол «новага рамана», лепшыя кнігі гэтага напрамку, да якіх варта аднесці і «Залатыя плады», нічога прынцыпова новага з пункту гледжання форм не азначаюць, адлюстроўваючы дэвальвацыю класікі ў сучасных буржуазных умовах. Аднак «новы раман» — гэта не кандэнсат звычайнага рамана, не «крык у сне», не «сімуляцыя творчай магутнасці пры адсутнасці зместу», як лічаць некаторыя даследвальнікі. Лепшыя прадстаўнікі гэтага напрамку вызвалілі дзеянне, як вынік чалавечых сутыкненняў, ад муштры акалічнасцей, замянілі колькасны падыход да падзей — якасным падыходам, паказваючы дзеянне знутры, г. зн. у прынцыпе так, як яно фіксуецца ў звычайным жыцці. «Новы раман», безумоўна, пашырыў тэхнічныя магчымасці літаратуры, але, зразумела, не адмяніў і не мог адмяніць класічны раман, паколькі сам адгалінаваўся ад яго, перажыўшы гібрыдызацыю з навейшымі формамі псіхалагічнай навелы і эсэ. Частка прыхільнікаў «новага рамана», магчыма, займалася шарлатанствам: трэба было «нечым напоўніць кнігі, пустыя самі па сабе», — гаворыць з гэтай прычыны сама Наталі Сарот. Але іншыя, — і ў гэтым заключаецца важнае значэнне «новараманістаў», — былі заклапочаны тым, каб прыстасаваць літаратуру да новых патрэб літаратурнага рынка, наводненага бульварнай халтурай.

Але вернемся да «Залатых пладоў». Праблема чалавечых каштоўнасцей вырашаецца аўтарам надзвычай арыгінальна — на прыкладзе рамана нейкага Брэйе, які спачатку атрымаў шумны поспех, а потым быў звергнуты ў тартарары пасрэднасці і звычайнасці. Сарот, ускрываючы механізм літаратурнай славы і невядомасці, намякае, што тую ж метамарфозу ўзлёту і падзенняў робяць усе чалавечыя каштоўнасці. Заражанае канфармізмам, грамадства не ў сілах супрацьстаяць фабрыкацыі думак, своеасаблівай «прамыўцы мазгоў», якая робіцца пэўнымі коламі. Сарот пратэстуе супраць ананімнасці чалавечага існавання. У нашым свеце, сцвярджае пісьменніца, перамяшаліся ўсе каштоўнасці, і ніхто не ведае, што сапраўднае, а што фальшывае, таму што крытэрыямі выступаюць хісткія разважанні салонаў. Мы асуджаны, таму што, супрацьпастаўляючы сябе масе, мы збядняем сябе, а збліжаючыся з ёй, губляем уласную індывідуальнасць.

Праўда, Сарот далёкая ад сацыяльнага пратэсту. Яна падкрэслівае нават, што яе цікавіць вузкі аспект чалавечых адносін: «Ёсць людзі, якіх зусім нельга падпускаць да сябе. Паразіты, якія пажыраюць у табе самае патаемнае. Адольваюць цябе, як мікробы...» Але вузкасць яе погляду не ад неразумення сітуацыі, а ад няведання выхаду з яе. У «Залатых пладах» яна як бы прызнаецца ў тым, што насілле думак, пачуццяў, маралі — непазбежны спадарожнік усякага грамадскага жыцця.

Раман амерыканскага пісьменніка Курта Ваннегата «Калыска для кошкі», напісаны ў парадыйнай манеры, па сутнасці, ставіць тыя ж «праклятыя пытанні» зямнога існавання. Але і ён не ідзе далей, — не затрымліваючыся, як Сартр, на філасофскай праблематыцы, не апісваючы, як Сарот, прычыны. Ён спрабуе дабрацца да вытокаў калектыўнай чалавечай безадказнасці, якая асуджае людзей на бясконцыя пакуты.

Фармальная кніга апавядае аб маладым пісьменнінку Іоне, які намерыўся расказаць нашчадкам аб тым, што «рабілі выдатныя» амерыканцы ў той дзень, калі скінулі першую атамную бомбу на Хірасіму». Але па сутнасці Ваннегата хвалюе маральная безадказнасць вучоных, асабліва небяспечная ў сучасны век імклівага навукова-тэхнічнага прагрэсу: «Людзі чыстай навукі працуюць над тым, што захапляе іх, а не над тым, што захапляе другіх людзей». Бачачы ў эгаістычным «самавыказванні» злавесны цень усеагульнай смерці і не знаходзячы сродкаў, каб надаць навуковым даследаванням сапраўды мірны характар, раманіст ставіць пад сумненне дабратворную ролю самога прагрэсу, змрочна іранізуючы над сентэнцыяй доктара Брыда, аднаго з саўдзельнікаў стварэння атамнай зброі: «Чым больш ісцін мы адкрываем, тым багацейшымі мы становімся». «Ці багацейшымі?» — усміхаецца аўтар.

Але ракавыя памылкі не ўзнікаюць самі па сабе. Ваннегат схільны лічыць першакрыніцай небяспечных хімер палітычныя сістэмы, пабудаваныя на шантажы і падмане. Не выпадкова, высмейваючы афіцыяльную ідэалогію ЗША, ён гаворыць: «Той, хто не зразумее, як можна заснаваць карысную рэлігію на хлусні, не зразумее і гэтай кніжкі».

Такім чынам, прычыну чалавечага зла Ваннегат бачыць у агіднай перавазе забабонаў, у скажэнні чалавечай сутнасці ілжыва зразуметымі прынцыпамі дабрачыннасці. Парадзіруючы буржуазную ідэалогію, амерыканскі раманіст вынаходзіць «баканізм» —дасціпную антытэзу кодэксу ілжывай маралі: «Першая фраза ў Кнігах Баканона чытаецца так: «Усе ісціны, якія я хачу вам выказаць, — гнюсная хлусня»...

Мы разгледзелі некалькі кніг, якія карыстаюцца неаслабнай цікавасцю ў зарубежнага чытача, мы ўбачылі, што аўтары гэтых кніг, нягледзячы на істотныя часам адрозненні ў спосабах мастацкай рэалізацыі задумы, нібы кругавой парукай звязаны агульным пошукам прызначэння чалавека на зямлі, сэнсам яго пазітыўнай дзейнасці. Яны звязаны яшчэ і другім, можа быць, больш істотным і характэрным: няведаннем выхаду з тупіка, у які вядзе чалавецтва буржуазная грамадская сістэма. Бяссільныя даць станоўчую праграму, яны паўтараюць, як Ваннегат, біблейскае: «Бо ёсць каханне», усведамляючы ілюзорнасць сваіх спадзяванняў і кволасць інструмента, з дапамогай якога мараць перарабіць жыццё.

Вядомы вывад, зроблены ў Праграме КПСС, аб тым, што гістарычнае загніванне капіталізму не азначае поўнага застою, закупоркі вытворчых сіл і не выключае росту капіталістычнай эканомікі, — гэты вывад захоўвае сваё значэнне і ў адносінах мастацтва капіталістычнага свету, у тым ліку і літаратуры. Крызіс, які перажывае буржуазная культура, праяўляецца не ў тым, што яна быццам бы бяссільная нараджаць творы вялікага сацыяльнага і мастацкага значэння, крызіс праяўляецца перш за ўсё ў нядольнасці даць гістарычна апраўданую перспектыву, напоўніць новым зместам ранейшыя гуманістычныя канцэпцыі. Больш таго, не бачачы перспектывы, гэта культура ў цэлым адмаўляе тыя канцэпцыі, якія са старажытных часоў жывяць дрэва агульначалавечай культуры, паўстае супраць спрадвечных традыцый. Цяжар развіцця гуманізму, як стрыжня мастацтва, такім чынам, перамяшчаецца туды, дзе гэтыя традыцыі працягваюць, узбагачаюць новым зместам, аплодняюць новымі ідэямі. Не выпадкова Жан-Поль Сартр некалькі гадоў таму назад заявіў карэспандэнту чэхаславацкага штотыднёвіка: «Вялікай тэмы, або, калі хочаце, вялікага зместу на Захадзе не існуе. Усё, што тут адбываецца, у якойсьці падобнай меры ўжо калісьці адбывалася. Адзінае новае вялікае дасягненне нашага стагоддзя — гэта сацыялізм і вызваленне «трэцяга свету», звязанае з гэтым. Захад мае простую форму, але яму ўжо няма чаго сказаць... Застою павінна пакласці канец літаратура сацыялістычнага свету і свету, які вызваліўся ад каланіялізму».

Як-ніяк, галоўнае ён адчуў і перадаў гранічна дакладна: сувязь майстэрства мастака з пісьменніцкім крэда, з яго здольнасцю бачыць тэндэнцыі грамадскага развіцця, намацваць «вялікі змест». Знаёмства з папулярнымі кнігамі чатырох вядомых пісьменнікаў, якія прадстаўляюць заходнюю літаратуру, пераконвае ў гэтым.



У Гомельскім раённым Доме культуры адкрылася перасоўная выстаўка мастакоў Беларусі. На выстаўцы экспануюцца карціны народнага мастака БССР В. Цвірко, мастакоў Б. Звінагродскага, В. Казачэнкі, М. Навіцката і іншых.

На здымку: у выставачнай зале.

Фота Б. ЧАЧАНКОВА.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Авось САВОСЬ

# ДЗЕ ПЕГАС ПАСЕЦЦА?

*Рэпартаж з Алімпа спецыяльна для «ЛІМа»*

**ПРЫЁМНАЯ КАМІСІЯ**
**(Адказнейшая місія)**

Не ўсім яна прыемная,
Камісія прыёмная...

Ідзе абмеркаванне думна,
Грунтоўна,
Доўга,
Нават сумна.
Сур'ёзны тут вядзецца рэй,
Ды з рэплікамі весялей!

У рэпліках —
Парады,
Звады.
Карчуюцца ушчэнт літляды!
Клапоцяцца пра маладых:
Каго—ў саюз, каму—пад дых...

— Лепш пачакаем —
Малады...
Хоць, праўда, мы ў яго гады...
Так, нам было не да навукі!

А моладзь зараз —
На ўсе рукі...

— Ва ўсім патрэбна ведаць меру.
Прымі, а потым —
Дай кватэру!..

— Падумаць варта на той конт,
Што церабіць пачне літфонд...

— І не такі ўжо майстра сталы,
Каб з Бахусам вадзіць хаўрус.
Ён рэстаранным філіялам
Зрабіць захоча ўвесь саюз!

— Яшчэ як талент не паспеў,
А ўжо развесціся паспеў!

— У акадэміі працуе
І манаграфіі прасуе.
Дагэтуль пра мяне — няма, —
Відаць, спяшаемся дарма!

— Заўжды прамоўцу атакуе,
Заўжды масцітых крытыкуе,
Заўжды шле кпіны з задняй лавы...
Яшчэ прымажацца да славы!

— Кандыдатура тут не тая —
Ён нашых твораў не чытае...

На ўзрост бываюць часта скідкі...
— Мы разам з ім
Насілі світкі...
Мы разам бегалі ў грыбы.
У яго ўзросце не любы
Працягвае пісаць упарта.
Прыняць за цягавітасць варта!..

— Мусоны дзьмулі і пасаты,
Шчырэў ён, чэсны працаўнік...

— Пачэсныя займаў пасады,
Як прынцыповы кіраўнік.

— Ён трошкі ў росце быў засеў.
Хай невялікі —
Свой засеў!

— На пенсію ён пойдзе скора.
Ім кіраваць —
Не ведаць гора!
Ён будзе ў клуб хадзіць ахвотна,
Бо дома ўжо сядзець маркотна!

Тут кожнага як след ацэняць,
А калі трэба, —
Дык заценяць.

. . . . . . . . . . . . .

Калі б камісію прасілі
«Прафільтраваць» свой склад на міг,
Яны б, напэўна, пракацілі
На вараных
Сябе саміх...

Працяг. Пачатак у №№ 47—48




Святкаванне Новага $7^{10}$ года па старому летазлічэнню супала са знамянальнай падзеяй: група антычасціц адной з галактык сузор'я Арыёна прайшла адлегласць у адзін светавы год за 352 светавыя дні. Так як гэтае дасягненне з'явілася самай выдатнай падзеяй звышновай эры, вырашана было адзначыць яго належным чынам.

— А як? — запытаў член зоркавага савета бледнатвары Юпітэр.

— Створым камісію, абмяркуем, узважым, вырашым, увойдзем з прапановай і... І адсвяткуем на самым высокім узроўні, — безапеляцыйна вырашыў уладар нябёс Марс.

Сказана — зроблена. Два светавыя дні прайшлі ў вялікіх клопатах. Вырашалі. Удакладнялі. Правяралі. Абмяркоўвалі членаў камісіі. Нарэшце камісія была створана. Старшынёй яе прызначылі самага паважанага — Юпітэра.

Потым было першае пасяджэнне.

— Сябры, нам трэба будзе зрабіць вялікую і адказную справу — распрацаваць і прадставіць на зацвярджэнне сцэнарый святкавання $7^{10}$ Новага года, — трымаў слова Юпітэр. — Свята гэта павінна быць дастойна выдатнага рэкорда, які ўстанавілі нашы антычасціцы. Прыступаем да справы. У каго ёсць якія прапановы?

Прапаноў аказалася больш, чым можна было чакаць. І ўсе яны былі незвычайнымі, нават самымі незвычайнымі.

— Новы год без ёлкі — гэта не Новы год, — мнагазначна прамовіў Альфа сузор'я Блізняцоў-Кастар.

З гэтым згадзіліся ўсе, дакладней, амаль усе, таму што ў важнага і самаўпэўненага Сірыуса наконт гэтага было другое меркаванне: калі Новы год павінен быць незвычайным—значыць, ніякай ёлкі. Але яго прапанова была адразу ж адхілена.

— Ёлка павінна быць не простая, а самая што ні ёсць касмічная, — заўважыла Вега з сузор'я Ліры.

— І абавязкова ўсыпана нябесным пылам, — удакладніў Сатурн.

Прапановы пасыпаліся, як зорны дождж у верасні.

— Верхавіну ёлкі ўпрыгожым Палярнай зоркай, — прапанаваў хтосьці.

— Або сузор'ем Паўночнай Кароны.

— А на галінках развесім Валасы Веранікі.

— І сузор'е Райскай Птушкі таксама.

— І Дзевы.

— Увесь ніз ёлкі трэба прыкрыць Вялікай туманнасцю Арыёна.

— Або Млечным Шляхам.

— А дзесьці ўверсе запаліць Паўночнае Ззянне.

— А каралевай балю выберам Венеру...

— Адну хвіліну, — спыніў членаў камісіі Юпітэр, — вы ўхіліліся кудысьці ўбок. Навошта Венера?

— Як — навошта?—здзівіўся Сатурн і, як быццам між іншым, паправіў на галаве сваё кальцо. — Яна ўпрыгожыць наша свята.

— А вы чулі аб апошнім прыбліжэнні да яе Плутона?

Наступіла нялоўкае маўчанне.

— Выбіраць Венеру каралевай балю не будзем, — катэгарычна заявіў Юпітэр. — Яшчэ невядома, як на гэта ўсё паглядзіць Марс.

Маўчанне зацягнулася.

— Прыкрыць ёлку Вялікай туманнасцю Арыёна нява̂рта, — нарэшце асцярожна заўважыў адзін з прадстаўнікоў сузор'я Хамелеона, — гэта можа сапсаваць яе святочны ўбор.

— Млечны Шлях неабавязкова, — падтрымаў яго хтосьці.

Здавалася, такога павароту толькі і чакалі ўсе члены камісіі. Папраўкі пасыпаліся адна за другой.

Папраўлялі.

Крытыкавалі.

Катэгарычна патрабавалі ні ў якім разе не вешаць сузор'е Дзевы. Хтосьці заўважыў, што Райская Птушка ўжо не ў модзе, а Паўночная Карона наогул безнадзейны анахранізм. Не пашкадавалі і Валасы Веранікі. Дасталося ўсім. Не зачапілі толькі Палярную зорку — што ні кажы, а гэта самае ўстойлівае свяціла. Але так як Палярная зорка аказалася ў адзіным ліку, пасля доўгіх спрэчак было вырашана і яе не вешаць на ёлку.

— Та-а-ак... — пасля доўгага маўчання, якое павісла над членамі камісіі ўсім сваім цяжарам, загаварыў Юпітэр. — Дык да якога ж прыйдзем рашэння?..

Маўчанне, здавалася, давіла ўсёй цяжкасцю сусвету.

— Яно добра... Калі б... Як гэта сказаць... — пачаў здалёку Альдэбаран. — Яно добра, калі б усё было добра, але калі будзе дрэнна, дык гэта ўжо зусім дрэнна...

Сірыус засмяяўся. Хтосьці яго абарваў, хтосьці іранічна ўсміхнуўся. Але наогул сітуацыя не змянілася — камісія па-ранейшаму перажывала становішча крызісу і творчай пустэчы.

— А ці трэба нам тут ламаць галаву? — зноў паспрабаваў разрадзіць становішча Юпітэр. — Арыгінальнасць — гэта добра. Але навошта яна нам? Можа адсвяткуем наша свята традыцыйна?..

Сусвет, здалося, адразу ж расхінуўся на некалькі светавых год. Над ім пранёсся ўздых аблягчэння.

— Вельмі правільна, — першым, і як раней, адгукнуўся прадстаўнік сузор'я Хамелеона.

— Безумоўна. Абсалютная прастата — першы прызнак арыгінальнасці, — пачаў разводзіць філасофію Вадалей.

— Вернасць традыцыям — самая каштоўная якасць, — падтрымаў яго Адзінарог.

Камісія ўвайшла ў творчае русла. Праз пятнаццаць светавых мінут сцэнарый святкавання Новага $7^{10}$ года быў гатовы.

А хутка прыйшло і само свята. Безумоўна, з ёлкай. На яе галінках віселі цацкі з цукеркамі, а ўнізе пад галінкамі стаялі зробленыя з ваты дзед Мароз і яго ўнучка Снягурачка.

На ўрачыстым вечары трымаў слова Марс. Ён павіншаваў антычасціц з выдатнай перамогай і ўручыў ім дыпломы першай ступені. Выступілі таксама Юпітэр, Меркурый і Нептун.

А потым быў вялікі святочны канцэрт. Баба-Яга спявала песні пра каханне, а фокуснік-аматар глытаў пластмасавыя шарыкі.

Вечар праходзіў у традыцыйным ключы.

## ПОБАЧ З НАМІ

Мал. А. ЗАЎЯЛАВА.



— Калега пачаў пісаць новы раман!



Аптыміст і песіміст.

Павел ШЫБУТ

## ШРАЦІНКІ

Зайздросны лёс у аўтарытэта: яго і падрываюць, і павышаюць, а ён застаецца самім сабой.

□

Чым тупейшы цвік, тым больш яму дастаецца ад малатка.

□

Для некаторых свет клінам сыходзіцца і на прамой.

□

Не бойся пакідаць жонку адну: адкуль ты ведаеш, што яна будзе без нагляду?

□

На этыкетках некаторых рэчаў трэба пісаць не як імі карыстацца, а як іх набыць.

□

Некаторыя і ногі маючы ходзяць на галаве.

□

Не кожны, хто гарыць, выклікае пажарную.

□

Блыха не згодна з тым, што вышэй сябе нельга скокнуць.

□

Вартаўнік згарэў, а аб'ект застаўся.

□

Ён меў багаты вопыт рабіць, а пасля выпраўляць памылкі.

□

Той, хто не пакрыўдзіць мухі, можа пакрыўдзіць слана.

□

Бывае, што ад іншага сябра цяжэй пазбавіцца, чым ад ворага.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.
Друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856. АТ 22327.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва—32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.